літаратар Адам Кашлаты (Віктар Пятровіч Бязменаў), зямляк, ураджэнец прыгараднай вёскі Міхалёва, выпускнік універсітэта. Найлепшы студэнт і грамадскі актывіст, канечне, не мог абысці такую падзею.

— Піша вершы, нават па-беларуску можа! — адрэкамендавалі Адаму Кашлатаму творы Віталя Мурашова.

Трэцяе месца ў конкурсе заваявала дзевяцікласніца Ірына Гарбуз, якая дужа жаласна распавяла аб смерці любімага цюцькі ў вершаванай форме, другое аддалі навучэнцу музычнага каледжа, нейкаму начальніцкаму ўнуку, бо за яго надта з выканкама прасілі. Адгадайце, хто ж быў першы? Правільна! Віталь Мурашоў, дакладней, ягоны верш «Зімовы плач». Чаму? Ды таму, што Адаму Кашлатаму ён падаўся бадай адзіным творам, які напісаў жывы чалавек. Ідэйны змест зімовага плачу пераказаць было цяжка, але вобразы яскравыя, часам процілеглыя, апаноўвалі і не адпускалі. То жах і роспач, як перад безданню, то ўтульная сцішанасць роднай хаты... Нават не верылася, што такое мог напісаць гэты прылізаны, узорна-паказальны маладзён з бадзёрай усмешкаю.

На Віталёвы ангельскія вершы Кашлаты нават не паглядзеў, бо недастаткова добра ведаў мову, а па праўдзе кажучы, па-ангельску не разумеў зусім. Рускамоўныя ж творы былі гэткія, як і ў астатніх канкурсантаў, бы пад капірку пісаныя, прысвечаныя дзвюм тэмам:

нешчасліваму каханню, якога не было ніколі, і любові да роднага горада, які Кашлаты цярпець не мог з тае самае пары, як упершыню яго пабачыў: на захадзе — хімкамбінат, на ўсходзе — клейзавод, між імі — хрушчоўкі ды новабудоўлі спальных раёнаў. Вядомага літаратара заўжды апаноўваў жывёльны жах пры адной думцы, што калі б дзядзька па бацькавай лініі — Васіль Сямёнавіч Бязменаў, былы супрацоўнік міністэрства, царства яму нябеснае, у свой час не перацягнуў пляменніка ў сталіцу і не ўладзіў яго тамака на працу ў часопіс, дык замест Адама Кашлатага быў бы Віктар Бязменаў, у лепшым выпадку настаўнік рускай мовы ў пэтэвэ хімікаў і пазаштатнік раёнкі.

Жывы класік павіншаваў пераможцаў, пасядзеў у прэзідыуме, пад'еў і выпіў на банкеце як мае быць. Сказаў колькі развітальных слоў пра сустрэчу з роднымі, дарагімі сэрцу мясцінамі. І рвануў у Мінск, толькі яго й бачылі.

Адам Кашлаты з'ехаў, а Аляксандр Міхайлавіч, кіраўнік літаб'яднання «Раніца» ды Валянціна Пракопаўна, намеснік дэкана па выхаваўчай рабоце засталіся. Дужа заганарыліся яны сваім выхаванцам Віталём Мурашовым. А тут наступны год выдаўся ўраджайным на разнастайныя юбілеі, атэстацыі. Правяраючыя і госці не зводзіліся, не паспявалі рыхтаваць тэматычныя вечарыны і самадзейныя канцэрты. Вось Валянціна Пракопаўна і папрасіла маладога паэта № 1 напісаць оду на адкрыццё

факультэта і выступіць з ёю на ўрачыстым сходзе. Можна было, канечне, каго іншага напружыць, але Віталь ёсць Віталь: прыгожы, выхаваны, адказны, да таго ж іменны стыпендыят, дыпламант гарадскога конкурсу — а гэта гучыць. Няхай ведаюць, якія ў нас студэнты, мо менш чапляцца будуць!

Віталь не пярэчыў, як заўжды. Напісаў «Оду». Хаця назваць гэты твор арыгінальным, таленавітым было цяжка, затое кіраўніцтва факультэта і правяраючыя былі задаволеныя. Але з таго моманту ўжо, на жаль, не «Зімовы плач», а клятая «Ода» зрабілася самым запатрабаваным вершам. Большасць студэнтаў думала, што яна ўвогуле адзіная. Чытаць яе прымушалі незлічоную колькасць разоў, перарабляючы тэкст у залежнасці ад нагоды. А кволыя спробы Віталя прапанаваць для выступаў нешта іншае рашуча адхіляліся. Часы надышлі не тыя, кожны за сваё месца калаціўся, тут ужо не да талентаў.

Няўмольна набліжаўся галоўны юбілей — 70-годдзе заснавання ўніверсітэта. Валянціна Пракопаўна ізноў выклікала пачынаючага паэта да сябе ў кабінет і, расплываючыся ў ласкавай усмешцы, паставіла перад фактам:

— Віталік, на наступным тыдні ў нас вялікае свята. Падрыхтуйся. Будзе канцэрт. Прачытаеш сваю «Оду». Падправў, каб у кантэксце гучала. Не мне цябе вучыць.

І тут упершыню Віталь запярэчыў у адказ:

— Вы мне прабачце, але я больш не хачу і не буду гэта чытаць.

— Ну, што ты, не выдумляй, цудоўны верш, нам так падабаецца, праўда, Аляксандр Міхайлавіч? — звярнулася па падтрымку да кіраўніка літаб'яднання. Ды марна.

— Не хачу і не буду. Ужо ўсе студэнты смяюцца, — стаяў на сваім Мурашоў.

— Дурні смяюцца, бо зайздросцяць, — угаворвала, бы спявала, намеснік дэкана.

Пабачыўшы, што справу з месца не зрушыць, да ўгавораў далучыўся Аляксандр Міхайлавіч:

— Ты, хлопец, мусіць, на сонейку перагрэўся? Угодкі ўніверсітэта — адказнае мерапрыемства, а не ёлка ў дзіцячым садзе! Хачу, не хачу... Табе навошта стыпендыю далі імянную? Каб удзельнічаў.

— Дык я ж не супраць, толькі давайце я лепш «Зімовы плач» пачытаю. Сам Адам Кашлаты хваліў, — прапанаваў ужо без ранейшай непахіснасці, але яшчэ з кволай надзеяй нешта змяніць Віталь.

Тут ужо Валянціна Пракопаўна, адчуўшы слабіну ў голасе, насупіла бровы і рэзка абарвала просьбу:

— Толькі Кашлаты ў Мінску, а мы тут. І адказнасць за ўрачыстую вечарыну нясе не ён, а адміністрацыя ўніверсітэта. Нам і вырашаць. Ты ж разумны хлопец, на пятым курсе ўжо. Марыш на кафедры застацца. Мо табе ў Краснапольскі раён хочацца ці горад Дрыбін? Падумай, падумай...

Віталь памаўчаў якую хвіліну. Пры словах «Краснапольскі раён» перад вачыма ўмомант пранесліся спалоханыя бацькі, незадаволены дзед, усмешачкі аднакурснікаў: во, маўляў, са скуры вылузваўся, а карысці? Гразкая дарога, новабудоўлі ў чыстым полі са шчылінамі таўшчынёю ў палец.

— Я згодны...

У актавай зале — не прабіцца. Віталь выйшаў да мікрафона, завучана ўсміхнуўся:

— Ода на открытие университета!

Першыя шэрагі займалі студэнты філфака. Яны лузгалі семкі і балбаталі міжсобку:

— Во, дарваўся чувак да сцэны! Зноў пад Дзяржавіна косіць.

— Ага, прычым тупа...

Мурашоў быў рахманым і безадказным, але не глухім і дурным. Скончыўшы свой выступ, ён выбег на ганак, абапёрся аб сцяну і прашаптаў, ледзь стрымліваючы слёзы:

— Як жа я ўсім надакучыў!

Знічкаю мільганула думка аб адрознасці дзіцячай і дарослай паслухмянасці, а потым прыйшло цвёрдае вырашэнне ніколі не пісаць вершаў, бо ад іх адзін клопат.

Прайшло сем гадоў. Віталь насамрэч кінуў свае літаратурныя спробы. Застаўся на кафедры, абараніўся. Чытае лекцыі ў родным універсітэце. Нагрузка неблагая. Увосень збіраецца ажаніцца з дачкою дырэктара аднаго з найбуйнейшых прадпрыемстваў горада. Бацькі не нацешацца! Пасняховы чалавек, што і казаць! І, ведаеце, амаль што шчаслівы.

## *Няўдалы прарок*

Маладзёнам Паўла назваць было цяжка: першая сівізна кранула скроні, дзеці ягоныя ўжо ў школу бегалі. Але сам Паўлік лічыў інакш. І дасюль пачуваўся юнаком, ледзьве не падлеткам, асобай творчай, пакуль малавядомай, але з вялікай будучыняй і ўсеагульным прызнаннем у перспектыве.

Нездарма ж з маленства чуў ад бацькі:

— Мой Паўлік нас на ўвесь свет праславіць!

У школьныя гады хлопец наведваў і мастацкую студыю, і музычную школу, і ў хоры спяваць спрабаваў. Ды толькі нідзе надоўга не затрымаўся. А калі дзясяты клас заканчваў, дык вылепіў на лецішчы сабаку Рэкса з гліны — ну, як жывы! Абяцаў яшчэ й ката Мурзіка зрабіць. Вось, нагледзеўшыся на таго сабаку, бацькі і вырашылі — сын мусіць паступаць у вучэльню, дзе на скульптара вучаць. Інстытут маладому таленту не свяціў усё роўна — адны траякі ў атэстаце. Але ж як кажуць — не лёс. Адзін экзамен Паўлік праспаў, на другі — забыўся. Па восені ў войска забралі. Адслужыў, вярнуўся дадому. Пагуляць хацелася. Кар'ерны рост спыніўся, так і не пачаўшыся. А тут падкінулася Ларыса Мацвеенка з першага пад'езда — вочы блакітныя, валасы бялявыя, бацькі заўсёды на лецішчы. А грошай няма! Вось тады і ўзгадаў Паўлік пра сілу мастацтва ды свае музычныя здольнасці. Пазычыў гітару ў суседа — і да Ларысы. Штовечар прыходзіў і

ўсё граў, граў, пакуль тая Ларыса не зацяжарала. Што рабіць, ажаніўся. Бацька ўладкаваў на завод вучнем слесара. Пацягнулася шэрая будзённасць. Тут ужо не да музыкі!

— Дрынькannем гэтым сыты не будзеш, — бурчэла цешча.

— Песні твае мне заўжды да лямпачкі былі, замуж хацелася, дурніцы, вось і слухала, — прызналася Ларыса.

Але творчы пачатак упарта не даваў сябе забіць. Унікаючы ад хатніх клопатаў, прыахвоціўся Паўлік цягацца ў інтэрнат да сябра Васі — халасцяка і шырокай душы чалавека. У каторага тады магнітафон зламаўся, а сяброў і выпіўкі быў поўны пакой. Паўлікавы спевы і гранне там шанавалі! На адной з бяседаў пазнаёміўся музыка з Васевай сяброўкай Марынай. Марына працавала выкладчыцай у пэтэвэ і ў адрозненне ад прадавачкі Ларысы ўмела цаніць мастацтва, а галоўнае — самога Паўла. Цяпер, ідучы да каханкі, Паўлік заўжды цягаў з сабою гітару, выдумляючы неіснуючыя рэпетыцыі самадзейнага аркестра, гастролі на раёне. Ларыса не крыўдавала і нават, здаецца, была задаволеная: не п’е, у хаце не дрынькае — што яшчэ трэба! А вось сябар Вася задаволены не быў. Прыраўнаваўшы Марыну, ён патэлефанаваў Паўлавай жонцы ды распавёў пра ягоныя «музычныя захапленні». Ларыса выперла мужа з хаты, з Марынай таксама нешта разладзілася. Абедзьве падалі на аліменты. Давялося да бацьь-

коў вяртацца. «Такі хлопец, такі хлопец, а вось з жонкамі не шанцуе», — уздыхала маці.

На працы Паўлік пасварыўся з майстрам і звольніўся. Спачатку пашкадаваў трохі, а потым зразумеў — не так то яно і блага! Талерка супу заўжды ёсць, аліменты бацька з пенсіі плоціць, каб сына не пасадзілі. Дзеці гадуюцца самі сабою. Вольнага часу шмат — а гэта важна для творчага чалавека. Узяўся нейкія кітайскія таблеткі для пахудзення распаўсюджваць, заробак абы-што, але на кішэнныя расходы хапае. Грошы ж у жыцці не галоўнае. На жаль, песні ягоныя ў інтэрнаце ўсім абрыдлі, ды і з Васем пасварыліся, а потым гітару скраў нехта. Тады Павел пачаў цікавіцца містычнымі вучэннямі і пісаць вершы. Толькі бацька ўжо не пахваляўся таленавітым сынам, а ўсё часцей наракаў на ягонае раздзяўбайства і ляноту ды абцяжарваў земляробчымі клопатамі. Вось і сёння прымусіў ехаць да бабы Валі капаць бульбу, папярэдзіўшы: «Будуць усе, дзядзя Валера з сям'ёй прыедзе, толькі паспрабуй праспаць!» І Паўлік пагадзіўся, бо меў наконт гэтых дакопак таемны намер. Не так даўно ён напісаў даўжэзную паэму на ўвесь сшытак. Як вядома, душа паэта патрабуе прызнання. Вось ён і вырашыў, што кампанія сваякоў за сталом можа стацца ўдалай аўдыторыяй для літаратурнага дэбюту.

На бабіных сотках пачынаючы літаратар не дужа каб шчыраваў, але мяшкі з бульбаю пацягаць усё ж давялося: куды ж ты падзенешся.

А калі селі за стол, яго нібы прарвала. Гаманіў без перапынку, ніхто слова ўставіць не мог. Спачатку бубнеў пра нейкія звышчалавечыя здольнасці, паралельны свет і акультызм. Сваякі рэагавалі па-рознаму. Баба Валя праз слова перапытвала: «Га, унучак?» Стрыечная сястра з цёткай цішком пасміхаліся, прыгадваючы колішнія бацькавы словы: «Да, праславіў бацьку з маткай, дык праславіў — нарабіў дзяцей па ўсім свеце!». «Якой халеры ты тут выдзелваешся? У цябе ж нават гэпэтэвэ за плячыма няма!» — прамовіў уголас дзядзька Валера, не вытрымаўшы пляменнікавага маналогу.

Далей маўчаць пра паэму не было як. «Трэба неадкладна ратаваць свой гонар», — падумаў Паўлік, выпіў чарку і ўрачыста абвясціў:

— Я вось кнігу напісаў!

— Ну, і пра што? — запытаўся дзядзька дзеля прыліку.

— Пра маё жыццё.

— Ты што, Ленін хіба? Чым тваё жыццё знакамітае? — задаўшы рытарычнае пытанне, дзядзька павярнуўся і пайшоў валюхаючыся да канапы.

Стратаю аднаго слухача Паўлік асабліва не засмуціўся, але дарма. Хаця й быў абазнаны ў містыцы, інтуіцыя ягоная пакідала жадаць лепшага. Не змог прадбачыць, што слухачоў не застанецца ўвогуле літаральна праз некалькі хвілінаў. Чытаць напісанае глухой бабе Валі не мела сэнсу. Маці паэзіяй не цікавілася,

затое ўмела добра закатваць памідоры, і са школьных гадоў мо і літары пазабывала, бо з кніжкай яе ніхто ніколі не бачыў. Бацька буркнуў: «Ачарцеў ты мне са сваімі вершамі», — і ўтаропіўся ў тэлевізар. Цётка пабегла на паратунак дзядзьку, той зваліўся з канапы і ніяк не мог ускараскацца назад. А сястра настолькі замарылася, пакуль капала бульбу, гатавала пачастунак, падавала кожнаму то лыжку, то гурок з кладоўкі, што ў канцы бяседы страціла магчымасць успрымаць навакольны свет наогул, а ўжо пра Паўлікавы вершы дык і казаць няма чаго. Хацеў непрызнаны паэт у роспачы узяць рэштку паўлітры і пайсці з паэмаю да суседзяў, але дзядзька Валера ўсё выжлукціў. А куды ты з пустымі рукамі пойдзеш?

Тады Паўлік, мармытнуўшы нешта пра нейкага прарока ў сваёй айчыне, са злосцю шпурнуў сшытак у грубку. А засынаючы, прыгадаў ката Мурзіка, якога ў юнацтве так і не вылепіў, хаця й абяцаў.

# Каханне ў нашым кусце

## *Жадаю вам*

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Вашу праграму слухаю даўно, а вось напісаць адважылася ўпершыню. Сучасная моладзь часта скардзіцца на адсутнасць матэрыяльнага дабрабыту і шчасця ў асабістым жыцці. А я вам вось што скажу: кожны сам гаспадар сваёй долі.

Ужо дваццаць пяць гадоў жыве ў вёсцы Вялікія Пацукі цудоўная сям'я — Вера Сямёнаўна і Сцяпан Данілавіч Казулічы. У гэтых цудоўных людзей можна шмат чаму павучыцца: жыццёвай стойкасці, непераможнаму аптымізму, каханню, пранесенаму праз гады цяжкіх выпрабаванняў. А найперш — здольнасці будаваць уласны лёс.

Ужо на што лахудрай урадзілася Вера Сямёнаўна: ні тварам, ні розумам, ногі самыя крывыя ў сельсавеце, — а вось жа сустрэла на сваім шляху другую палавінку. Сцяпан Данілавіч застаўся ў вёсцы пасля вольнага пасялення. Працавіты, чулы, уважлівы чалавек. Калі бывае цвярозы, з ахвотаю корпаецца ў градах, ходзіць у калгас на палявыя работы. Жонка завіхаецца па гаспадарцы. Да баптыстаў прыладзілася, зрэдзьчасу наведвае малітоўны дом, адтуль цягне гуманітарныя транты. Так што купляць адзёжу ў краме не трэба.

У сям'і пяцёра дзетак. Хоць грашовая дапамога на іх невялікая, але ўсё ж такі капейчына ў дом. Двое старэйшых пайшлі ўжо на свой хлеб. Вова адседзеў тры гады. Цяпер ляжыць у абласной псіхбальніцы — інваліднасць зрабіць сабе хоча. Марынка, матульчына радасць і надзея, робіць цялятніцай. Грошы плоцяць рэдка й мала, затое штодня мае торбу камбікорму. Замуж сабралася, у чацвёрты раз. Малодшыя — Наста, Сярожка і Андрэйка — ходзяць у школу. Там іх бясплатна кормяць двойчы на дзень як малазабяспечаных. Бацькі з малых не нацешацца. Вучацца дзеткі абы-як, але здаровенькія і апетыт добры.

У сям'і пануе каханне, узаемапаразуменне ды згода. А калі нават паб'юцца ці нажамі парэжуцца — ну з кім не бывае? — дык ужо назаўтра пахмеляцца, паміраццa і шпацыруюць па вуліцы ў абдымачку. Маці, бацька й меншыя дзеці разам у будні і святы. У дзень палучкі ідуць у кантору. Потым — у краму па віно і цукеркі.

Здараецца, хтосьці з вяскоўцаў запросіць Казулічаў жаць жыта, капаць картоплю. Вера Сямёнаўна абавязкова бярэ з сабою дзяцей, каб змалку да працы прывыкалі. Бацькі робяць, малыя побач бегаюць. Пасля гаспадыня кліча на бяседу.

— Цёця сёння ўсіх частуе! — радасна абвяшчае маці.

Наста, Сярожка і Андрэйка навыперадкі бягуць да стала. Спрытныя, халеры, паспява-

юць не толькі наесціся ўволю, але й тое-сёе з хаты вынесці.

— Ну й дзеці ў цябе, Вера, не ўкарміць! — шчыра дзівіцца гаспадыня, выпраўляючы Казулічаў дадому. Нехта з гасцей цішком прамаўляе:

— Бач ты, п'юць, б'юцца, зімой пад плотам валяюцца, дзеці расхрыстаныя і мурзатыя. І ніякая трасца не бярэ гэтых недаробкаў!

Добра, што не бярэ. Сам Бог ахоўвае іх шчасце й здаровейка. Бо менавіта на такіх людзях і трымаецца наша вёска.

Дарагія Вера Сямёнаўна і Сцяпан Данілавіч, жадаю вам жыць доўга-доўга, дачакацца паболей унукаў і праўнукаў. А ў якасці музычнага падарунка папрашу ўключыць у праграму песню Ларысы Долінай пра пагоду ў нашай хаце.

## *Тэлегісторыя*

Каханне, мае даражэнькія, — рэч сур'ёзная. Гэта вам не смешачкі. Праз нешчаслівае каханне некаторыя нават вар'яцеюць ці співаюцца. Зрэшты, вар'яцтва Тамары не пагражала. Яна й так была, як кажуць, пыльным мехам пацопаная. Жыла сабе спакойна ў вёсцы Каменка не важна якога раёна. У кожным раёне ёсць свая Каменка. А ў кожнай вялікай вёсцы дзеўчына з дыягназам, ад родных брата і сястры народжаная. Але не кожная дурнаватая мела такую прыбытковую працу, як Томка. Цётка яе ўладзіла пасудамыйкай у гарадскую бальніцу.

Заробкі па вясковых мерках неблагія. Паўтары стаўкі ды дваццаць пяць адсоткаў прэміі! Да таго ж на кухні можна было заўсёды пад'есці, што таксама важна. Асабліва для Томы, якая з маленства ела як не ў сябе.

Кожную раніцу Тамара, апранутая ў сінія спартовыя штаны, белую кашулю (а ў святы — з гальштукам-матылькам), сядала ў аўтобус і ехала на сваю любімую працу. Увечары вярталася з батонам, катлетамі і двухлітровай бутэлькай кампоту.

Дома клалася на канапу, спажывала булку ці яшчэ што там з работы прынесенае, глядзела тэлевізар. Аднойчы, пераключаючы каналы ў сваёй скрынцы, натрапіла на праграму абласнога тэлебачання. І тут на блакітным экране Томка ўпершыню ўбачыла Яе — вядучую віншавальнай праграмы Вольгу П. Убачыла і закахалася. Як прозвішча вядучай? А вам навошта? Таксама закахацца хочаце? Ды ў яе і так ужо тузін вар'ятаў закаханы. А Вользе ад гэтага не горача не халодна: работа ў чалавека такая. Для Тамары ж прагляд «Свята ў вашым доме» стаў сэнсам жыцця. За два месяцы яна вывучыла прыпевы ўсіх песень. Зрабіць гэта нават разумова адсталай было нескладана: песні перадавалі з дня ў дзень адны й тыя ж. Насамрэч, што можа быць лепей, чым ляжаць на канапе, спажываць дармавы батон, слухаць гарадскую музыку й пазіраць на сваю каханую? Пасля пачаліся тэлефанаванні на тэлебачанне, лісты з процьмаю арфаграфічных па-

мылак. Толькі вядучая размаўляць не жадала, на лісты не адказвала. Тады Тома вырашыла даслаць ёй падарунак. Але як? У райцэнтры на карпункце абласнога тэлебачання пасылку чамусьці не прынялі. Давялося самой каробку мармеладу з'есці.

Тым часам у Каменку прыслалі маладых настаўніц, Томка пазнаёмілася з імі ў аўтобусе, напрасілася ў госці. А як даведалася, што адна з дзяўчат — з абласнога цэнтра, пачала прыходзіць штодня. Распытвала, ці прыгожы будынак студыі тэлебачання, ці не бачылі яны Вольгу П., прасіла перадаць падарунак. Дзяўчаты сумавалі ў вёсцы. У першыя часы Томчына балбатня забаўляла іх. Да таго ж Тамара прыносіла з сабою магнітафон. А за гэта, пагадзіцеся, можна шмат што прабачыць. У госці заходзілі хлопцы з закускаю і выпіўкай, перападала й Томачцы.

Пакрысе светлы вобраз вядучай адыходзіў на другі план. Тома рэгулярна дасцёбвалася да настаўніц, а адной з іх нават прапанавала стварыць сям'ю, але тая праз сваю маладосць і легкадумнасць прапановы не ацаніла.

Неўзабаве дзяўчаты з'ехалі з Каменкі, так і не перадаўшы пасылкі Вользе П. За гэты час Тома прызвычаілася цягацца па хатах і кампаставаць людзям глузды расповедамі аб няспраўджаным шчасці. Асаблівым стымулам для шчырага плявузгання станавілася выпітая чарка. Толькі цяпер ужо ніхто не наліваў. У калгасе не плацілі заробкі, маці вытрасала

з кішэняў астатнія рублі. Грошай на гарэлку ды новы падарунак для Вольгі не ставала. Вар'яцець далей ужо не было куды. Спіцца праз нешчаслівае каханне ніякай магчымасці. Гора.

## *Пра любоў і дружбу*

За трыма лясамі, за трыма ўзгоркамі і адной канаваю, на ўскрайку невялічкай вёсачкі жыў чалавек. І была ў яго карова па мянушцы Малюта. Чалавек вельмі любіў сваю карову і ганарыўся ёю. Як жа — такая тлустая, гладкая, рабая! А малака давала на зайздрасць суседзям — аж па пятнаццаць літраў у дзень!

Штораніцы гаспадар навязваў Малюту на поплаўчыку, штовечар размочваў у даёнцы бохан хлеба. Купляў крадзены камбікорм ажно ў саміх Асіповічах! Карацей, насіўся са сваёй кароваю, як дурань з пісанаю торбай, і быў шчаслівы сваімі клопатамі. Малюта аддзячвала шчодра: спраўна даілася, паслухмяна скубла траўку і не рабіла ў хляве ніякай шкоды.

Ні раней, ні пазней мне не даводзілася бачыць такой любасці і паразумення паміж чалавекам і жывёлаю. Сапраўдная ўзаемная любоў — можна сказаць, нават каханне — моцнае, выпрабаванае часам, вольнае ад непатрэбнай рэўнасці. Але ў гэтыя чыстыя ўзаемаадносіны двух нечакана ўмяшаўся трэці.

І не абы-хто, а вядомы ў раёне чалавек — старшыня калгаса. Ён загадаў разараць па-

плавец. Цяпер гаспадару не было дзе пасвіць рабенькую Малюту.

Светлай вераснёвай ранічкай карова пакорліва выйшла з хлява ўслед за гаспадаром. Падымаючыся ў кузаў грузавіка, яна прадчувала нядобрае, з вялікіх вільготных вачэй жывёлы беглі слёзы...

Каханне, як звычайна, скончылася здрадай, продажам другой палавінкі дзеля ўласнага спакою. Гаспадар здаў Малюту на мяса, а на атрыманыя грошы купіў бензапілу «Дружба», рэч у гаспадарцы патрэбную.

А вы што, чакалі нечага іншага?

## Навіна тыдня

І надышоў вечар. І сцішыў ліпкі пры вуліцы, і цукровачкі ў садзе сцішыў. Нават занядбаныя сліўнякі, смароднікі пачалі здавацца гушчарамі ад прыцемкаў гэтых. Засыналі калодзежы, засыналі хаты жылыя і пакінутыя. Толькі цётцы Любе не спалася. Кульгаючы, яна сунулася кудысь па вясковай вуліцы. Спынілася ў задуменні, нагу хворую пачухала. От, халера ясная, млее, хоць ты што хочаш! Каб не нага гэтая, штодня ў грыбы лётала б, свайго не ўпусціла б. А як жа інакш — маладая спрытная баба, шчэ толькі сем гадоў як на пенсіі, ніхто ў вёсцы з ёй не зраўняецца, і не толькі ў грыбах. Ды няма беднай тутака разгону. Яшчэ гадкоў пяць таму штовечар шпацыравала па вуліцы, па гасцях швэндалася. І пад'ясі, і пагамоніш, усё выведаеш: у каго кура здохла, хто колькі гуркоў выбраў, якія госці на кірмаш прыязджалі. А цяперака сумна. Паўміралі, паз'язджалі. Тыднямі не чуваць нічога. Хіба што хуткую хто выкліча, дык і тое размоваў на паўгода. Зваліся людзі, зваліся і навіны.

Але сённяшняя навіна хоць куды! Гады ў рады такое надарыцца. Мо да Савончыкавых забегчы, пакуль спаць не паўлягаліся?

Прайшлася Любка яшчэ трохі, зноў нагу пачухала, здаля на вокны свае цёмныя зірнула. «Ат, чорт яго бяры, не ўцячэ хата», — вырашыла і рушыла да Савончыкавай хаты. Адчыніўшы дзверы ў сенцах, угледзела ўкру-

чаную ў кабат старую Савончыху, засакатала з парога:

— Ці чулі вы дзіва?

— Якое, Любачка? — шчырая зацікаўленасць у голасе межавала з неспакоем, з-пад стракатае хусткі дапытліва глядзелі на госцю вочы. Баба баялася прапусціць хаця слова.

— Ета ж сёння прыйшоў з поля віхор, — працягвала Любка. — Падняў Васілёў стажок саломы, расцерушыў паўсюль, а плёнку з грузікамі, каторую стажок накрывалі, на два шматкі парваў і на правады кінуў. Во як!

— Віхор ды Васілёву салому раскідаў? — для пэўнасці перапытала Савончыха ў чаканні новых падрабязнасцяў.

— Ага, і раскідаў за якую мінуту. А Васіль з жонкаю сядзелі на лаўцы і на еты цуд глядзелі.

— А што ты зробіш, галубка мая, рады не дасі.

— Вось дык на табе! У нас жа на двары фіранкі віселі і не зварухнулася ні адна, — падаў голас з-за грубкі стары Савончык.

— А ад чаго гэта можа быць, га? — не супынялася Любка.

— Розніца ў атмасферных цісках, — патлумачыў Савончык, былы настаўнік фізікі.

Змрок за акном гусцеў, але тэлевізара не ўключалі, навіна была вартая таго.

— Можа, вы і правільна кажаце пра ціск еты. Толькі калі ў той віхор нож кінуць, дык кроў з'явіцца, бо ведзьма!

— Я такое па відзіку бачыў! — далучыўся да дарослай гамонкі Савончыкаў унук.

— Раз у кіно паказвалі, значыць, нешта такое было! — узрадавалася нечаканай падтрымцы Любка.

Пытанне бабы Савончыхі раптоўна прымусіла сціхнуць усіх:

— А на нашым кладзьбішчы свежыя магілы е?

— А як жа, Хведаркову цешчу хавалі, каторая ў горадзе жыла, — першая знайшлася з адказам Любка.

— Ну дык вось, — павучальна прамовіла Савончыха, — усю восень і зіму нябожчык спакойна ў зямлі ляжыць. А вясною і ўлетку з яго фосфар выходзіць. Круціцца белы слуп, а ўнутры агеньчыкі бліскаюць. Убачыш такое — стой на месцы і не дыхай, бо прыйдзе да цябе і задушыць. Я як у школе рабіла, аднаго разу бачыла...

— Ей-богу, з кладзьбішча! — Любіны вочы аж заблішчэлі: трэба будзе запомніць, каб канцавым дачнікам пераказаць, — ім такое спадабаецца.

Дужа карцела пра што яшчэ дазнацца ці хоць бы наконт націрак параіцца, але гадзіннік паказваў палову на адзінаццатую — далей гуляць не было як.

— Ну, то я пайду. Позна ўжо. Добрай ночы, — развіталася Любка і накіравалася да дзвярэй.

Бразнула клямка. Начная цемра пагрозліва дыхнула ў твар. Зорак не відаць. Цішыня наўкола, хоць задавіся. «Белы слуп круціцца, а ўнутры яго агеньчыкі бліскаюць», — прыгадаліся Любе бабіны словы. За тры хаты ісці, а могілкі зусім побач. Страшна! Словы замоў перамяшаліся з мацернымі. Бедная цётка басанож бегла дахаты, праклінаючы па дарозе і сябе, і Васілёву салому, і сваё позняе гасцяванне. Паздаравеўшы ад сполаху, забылася не толькі на хваробу, а і на тапці ў Савончыкавых сенцах.

Адгарэў яшчэ адзін дзень у адміраючай вёсцы. А ў гэты самы час недзе далёка-далёка, за самым небакраем, у паралельным свеце запускалі касмічныя спадарожнікі ды працягвалі змагацца з тэрарызмам.

# Падарунак для Дзеда Мароза

Я амаль беспаспяхова змагалася з жаданнем паспаць і ў чарговы раз шкадавала пра тое, што праз тры дні Новы год, а не Радаўніца. Радаўніца зрабілася маім улюбёным святам з тае пары, калі мяне, як кажуць настаўнікі, «дагрузілі» паловай стаўкі арганізатара.

На Радаўніцу з радзінай сустрэнешся, на могілках пасядзіш, чарку вып'еш — вось і ўсё. Аніякага клопату! Не трэба пісаць сцэнараў, шукаць магнітафон, пільна сачыць, каб ён не змоўк у самы адказны момант. Не трэба баяцца, што імпрэзу не ўпадабае дырэктар школы і цябе пазбавяць прэміі.

Леташняя навагодняя елка атрымалася не надта відовішчнай. Дырэктар папракаў за гэта ранейшага арганізатара ажно да Першамая. Хаця б цяперака ўсё прайшло гладка. Сцэнар свята я напісала па-беларуску. Школа была з беларускай мовай навучання, пазакласныя імпрэзы я ладзіла таксама на роднай мове. Усе прызвычаіліся.

Беларускамоўная елка вялікім дзівам не стала. Калегі падтрымлівалі, вучні навыперадкі прасіліся ўдзельнічаць.

Знайшлі і Снягурку, і зладзеяў, і карагоды павывучвалі.

Толькі вось Дзеда Мароза не было. Сёлета ніхто з нешматлікіх хлопцаў-старшакласнікаў на гэтую ролю не пагадзіўся. Хто баяўся, хто словаў не мог запомніць. Сядзець пад елкаю

і падказваць ім — значыць, ізноў раззлаваць дырэктара.

Тады Дзедам Марозам прапанавалі абраць мяне. Я згадзілася. Чорт яго бяры, іншага выйсця ўсё адно няма. Спакайней будзе. Урэшце, жанчына ў ролі Дзеда Мароза, яшчэ з часоў майго дзяцінства, — шараговая з'ява, куды больш звыклая, чым елка па-беларуску ў беларускай школе.

Гадзіннік паказваў сем гадзінаў — час ісці па малако. Я хуценька прабегла вачыма словы Дзеда Мароза і пачала апранацца.

У суседзяў за сцяною ізноў усчалася сварка.

— Колькі можна есці! Усё жарэш і жарэш! Трэба ж меру знаць! — раўла баба Сямёніха.

— І тут не ўгадзіў! Ага, я ж навалач, а вы тутэйшыя, — не саступаў яе раз'юшаны зяць Вова на мянушку Малдаван.

Я не стала слухаць працягу, узяла торбу і выбегла на вуліцу.

Ліхтары не гарэлі. Добра, снег выпаў, а то хоць вока выкалі.

На паўдарозе, непадалёк ад крамы, я заўважыла старую. Трымаючыся за плот, яна паўзла па снезе. Сівыя валасы распатлаліся, рукі імкнуліся ўхапіцца за штыкеціну.

З усяго відаць — кепска чалавеку. Я падбегла бліжэй і аслупянела: старая была абутая толькі ў адзін бот, а другая нага босая, нават без панчохі. Белы сняжок навокал!

— Дзе вашая хата?

Бабка спрабавала нешта патлумачыць, але язык не слухаўся. Толькі страшэнна патыхала

перагарам: набралася як бэля. Гукамі і жэстамі яна ўсё-такі паказала кірунак хады. Я пасадзіла бабку на ганак роднай хаты, адчыніла дзверы ў сенцы і рушыла далей.

Малако я купляла ў Мацюшэўскіх, што жылі ў доме з экзатычнай мянушкай — ЛТП.

Калісьці тут сапраўды месцілася ЛТП. Пасля ўстанову зачынілі, кватэры раздалі людзям.

Дом меў два паверхі і два пад'езды і быў збудаваны на балоце. Адсюль неверагодная вільгаць на першым паверсе, з'едзеныя грыбком, аж чорныя, рамы на вокнах, і камар'ё ў трубах да зімы вядзецца.

Якраз у такой кватэры і пашчасціла жыць Мацюшэўскім. Гаспадыні — Ніны — дома не было, даіла карову. Яе сям'я ў поўным складзе глядзела тэлевізар. Паказвалі КВН, выступ студэнцкіх камандаў. Нейкі лысаваты дзядзька, з выгляду 20 гадоў як не студэнт, лётаў па сцэне і мармытаў жарт, які аскомы нагнаў:

— Лінолеюм, міленіюм!

Маладым надакучыла, старэйшыя не разумелі.

— У гэтага пердзела старога, мусі, унукі ўжо ёсць, а ён усё маладым прыкідваецца, — пачуўся голас гаспадара, Сяргея Мацюшэўскага.

— Няхай бы лепш унукаў гадаваў, чым дзяцініўся, — падтрымала бацьку дачка Іра.

Вось праз такіх здзяцінелых дзядзькоў Дзед Мароз ператварыўся ў жанчыну, — падумалася мне. — Гэты бязмен тут выдурняецца, а Дзеда

Мароза даводзіцца граць дваццацідвухгадовым дзяўчатам.

У кватэру ўвалілася Ніна з даёнкаю і, не павітаўшыся, адразу пацікавілася ў мяне:

— Ты Ганьку з другога пад'езда ведала?

— А што такое? — з цяжкасцю прыгадала я худзенькую, нязграбную постаць у зялёным палітоне. За няпоўны год, што працую ў мясцовай школе, яшчэ не паспела ўсіх павывучваць.

— Сёння хавалі. У хляве павесілася... Нібыта нармальная жэншчына, дарослых дзяцей двое, — працягвала Ніна.

— Нашая Светка казала, што яна са сваім кавалерам нейкім пасварылася. А Кур'янчыкава нявестка бачыла, як яна плакала, калі ехалі ў машыне на працу, — уступіла ў гаворку Іра.

— Дурная баба, — буркнуў з кута Сяргей.

На адваротным шляху я сапраўды ўбачыла свежыя яловыя лапкі каля ганка ЛТП. Дзіўна, чаму не заўважыла адразу. Што й казаць — перадсвяточны вечар! Лепей бы Радаўніца...

А назаўтра мяне самую чакаў сюрпрыз.

Калі б папрасілі ўзнавіць хроніку свята цалкам, я б, пэўна, не здолела. Памяць захавала самыя яркія моманты, падобныя да ўспышкі фотаапарата, да мільгацення агеньчыкаў за шклом вечаровага аўтобуса.

Памятаю ўбраную елку, паўнюткае фае местачкоўцаў — дзяцей і дарослых. Зайграла песня:

— Прыйдзе зіма, і снежань
Лісце заваліць снегам...

Выбеглі старшакласнікі ў карнавальных касцюмах. Маленькія ў карагод пайшлі. Цудоўна! Чым больш карагодаў, тым мацней адчуванне свята ў дзяцей — сцвярджала нашая завуч.

Я ўпотайкі назіраю за ранішнікам праз шчыліну ў дзвярах кабінета фізікі і хвалююся. Пакуль усё добра.

Вучні малайцы, словаў не блытаюць. І магнітафон малайчынка — шчэ ні разу не змоўк. Дырэктар, задаволены, усміхаецца. Там, у фае, Снягурка абвяшчае: «Зладзеі скралі мех з падарункамі ў Дзеда Мароза».

— Дзед Мароз! Дзед Мароз!

Усё, мой выхад.

— Я ішоў да вас з Усходу,
Ды з паўночнай стараны,
У Лапландыі далёкай,
Дзеткі, ўчора еў бліны!

А футра ў Дзеда Мароза, аказваецца, лёгкае, як сукенка. Дарэчы, я ўсё жыццё спачувала яму: даводзіцца парыцца ў душнай залі.

Ізноў карагод. Запальваюцца на елцы агеньчыкі. А цяпер чытанне вершыкаў. Нешта накшталт:

Что растёт на ёлке?
Шишки да иголки.

І так разоў пятнаццаць запар. Атрымаць падарунак ад дзядулі хоча кожнае дзіця. Усё нагадвае елку ў сельскай мясцовасці ў канцы

пяцідзясятых. І раптам — Максім Багдановіч. «Пагоня».

Ля елкі стаяла вучаніца пятага класа Наташа. Яна таксама падрыхтавала верш для Дзеда Мароза.

Зала сцішылася. Падабенства з ранішнікам канца пяцідзясятых імгненна знікла:

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, —
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях...

Ад узрушэння я шчэ мацней рукой сціснула дзедмарозаўскі кій, змайстраваны з дрэўка піянерскага сцяга.

Адразу кудысьці адышлі падзеі ўчарашняга вечара: п’яная бабка, ЛТП, Вова Малдаван, здзяцінелы кавээншчык...

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць...

Вось дык Наташа! Не паленавалася, знайшла і вывучыла. Упершыню за гэтыя два тыдні я не пашкадавала, што хутка Новы год, а не Радаўніца. Я была перакананая — падарункі робіць Дзед Мароз, а выйшла — наадварот. Свята і мой дэбют прызналі выдатнымі, нават на ролю Дзеда Мароза ў мясцовы ДК запрасілі.

У жыцці мястэчка, на жаль, асабліва нічога не змянілася.

Свежыя хвойкі на снезе шчэ не зляжаліся. Надышоў яшчэ адзін вечар. Вуліцы без ліхтароў, ЛТП, бязглуздыя жарты па тэлевізары, нават Воўка Малдаван з цешчаю, здаецца, сварыўся. Ды я іх не чула, сышоў адчай з душы, у сэрцы гучаў звонкі дзіцячы голас: «Максім Багдановіч. “Пагоня”».

# Маленства пад горку кацілася

«Любіў шофер учыцельніцу. А яна за яго замуж іці не хацела. Казала, шофер саляркаю смярдзіць. Дык ён узяў нож — ды ў жывот дзеўцы. Памерла не зразу. Шчэ да самых варотаў бегла. У фартуху свае вантробы несла...» — вось такія паданні, мала падобныя да фальклору са школьных падручнікаў, штовечар чуліся на вясковай вуліцы. На лаўках сядзелі, абгаворвалі адна адну глухаватыя бабулькі.

У тое лета мне споўнілася дзесяць гадоў, маім сябрам было прыкладна столькі ж, як той казаў: год туды-сюды. Узрост, калі замест казак пра папялушак і цмокаў, якіх, дарэчы, у вёсцы ніхто не распавядаў, узнікае неадольнае жаданне слухаць гісторыі, непрыдатныя для дзіцячых вушэй, а свет, адмыслова створаны для цябе дарослымі, пакрысе страчвае сваю прывабнасць. Проста расплываецца, нібы ў тумане, і ўсё. Знікаюць Дзед Мароз, Бабай, ваўкі ў жыце, дзікі на копанцы. Не вернеш. Найжахлівейшымі істотамі табе падаюцца калгасныя камбайны, што лётаюць па вясковай вуліцы, лязгаюць жалеззем, як фантастычныя пачвары.

— Як убачыце, дзеткі, адразу ў двор уцякайце. Хто яго ведае — п'яны ён едзе ці яшчэ які, — наказвае бабуля. Я слухаюся яе. Не ва ўсім, праўда. Чалавек — такая брыдкая істота: хлусіць і размаўляць вучыцца адначасова, а

першыя ж працоўныя даручэнні выклікаюць жаданне іх не выконваць. Замест таго, каб нарваць на сотках ёмкі кошык амерыканскай канюшыны для парсюкоў, я бегла на поплаў. Надзяру трохі лугавіны, узаб'ю яе рукамі, каб паўней глядзелася. Абы з рук, абы хутчэй да сяброў на гулі. Забаўкі нашыя таксама былі не анёльскімі. Аднаго разу злавілі вялізнага коніка (саранчу), размалявалі яго ды зноў у траву выпусцілі. А чаго вартая задума накласці курынага дзярма ў бляшанку з-пад цукерак-смактушак, закапаць пад ігрушаю, пасля падвучыць гэткіх жа падшыванцаў, як самі, шукаць старажытны скарб. Дарослыя клікалі нас бандаю. Мы басцяліся дзе хацелі: гулялі ў хованкі ў калгаснай кукурузе, лавілі жаб у копанцы. Але ў тое лета рэчаіснасць змусіла нас часткова забыцца на ранейшыя гульні.

Памерла сляпая баба Несцяровічыха. Яшчэ тры дні таму мы разам з Алеськаю і яе бабуляю заходзілі ў двор да Несцяровічыхі. Гаспадыня сядзела на ганку і, здавалася, скрозь нас узіралася сваімі невідушчымі вачыма кудысьці далёка. І вось яе няма. Ішоў дождж. Вёска рыхтавалася да хаўтураў. Нашая банда сабралася ў Алесінай хаце, каля акна. Па вуліцы сноўдалі незнаёмыя жанчыны ў чорных хустках, ішлі глядзець нябожчыцу аднавяскоўцы ў чыстых строях з кветкамі.

Назаўтра на могілках усёй вёскай старыя і малыя развіталіся з Несцяровічыхай.

Я таксама ціхенька стаяла ў дзіцячым гурце. Усё было ў навіну. Да пэўнага ўзросту

могілкі наогул здаюцца найпрыгажэйшым і найцікавейшым месцам у наваколлі, амаль парк адпачынку. Рознакаляровыя агароджы, лавачкі, безліч кветак. Мае сябры, у адрозненне ад мяне, не маглі дзівіцца моўчкі.

— Глядзі, глядзі, зараз бабу закапаюць, а яна яшчэ тры разы перавернецца, — пачула я Валеркаву балбатню. Дзіўны гэты Валерка, як жа яна перавернецца? Столькі ж зямлі ўскінулі. Ат, гаворыць абы-што. Я паглядала навокал, сябрукову гамонку не падтрымлівала.

А ён, Валерка, і на жалобным стале, куды патрапіў адзіны з нашай банды, здзівіў дарослых. Пасля словаў дзеда Несцяровіча, мужыка нябожчыцы: «Адна ж ты ў мяне толькі і была», — Валерка, пахваляючыся, прамовіў на ўсю хату:

— А ў маёй бабы многа дзядоў было!

Адвячоркам на лаўках шчэ доўга не сціхалі размовы і абгаворы.

Кожная бабка імкнулася некалькі разоў выказаць сваё меркаванне пра хаўтуры, жалобны стол, Несцяровічышыну радню. Казалі, па нябожчыцы ніхто не плакаў. Яе ўнучка, высокая хударлявая дзеўка, як прыехала, дык адразу пабегла да суседзяў тэлевізар глядзець. Толькі дачка Несцяровічыхі, дурная Нінка, сядзела ля труны, абмахвала мух ды ўсё прыгаворвала:

— Мамка, ты мая мамка.

Казалі, цяпер Нінцы гора будзе, бацька здасць яе ў інвалідны дом. Старыя перагаворвалі адно і тое ж, можа, з месяц. Для нас,

дзяцей, з таго часу не было гульні цікавейшай за пахаванне.

Спачатку зладзілі хаўтуры па здохлым вожыку, якога знайшлі ля калодзежа. Усё як мае быць: крыжык, кветкі, яловыя лапкі, магілка ў канцы агарода, на поплаве. Пасля была ластаўка з перабітым крылом. Мы спрабавалі яе лячыць. Валерка прамыў крыло ў вадзе, заверыўшы, што яна цёплая, сам учора ногі мыў; намазаў рану нейкай бабінай націркаю. Але, нягледзячы на ўсе нашыя высілкі, птушка не выжыла. Хавалі таксама ў канцы гарода. Там жа знайшлі свой спачын мухі ды каларадскія жукі. Забіць казюрак адмыслова дзеля гульні прапанавала самая меншая з нас, Алеська. А калі натрапілі ў садзе на нябожчыка-дзятла, дык хаўтуры ладзіць не сталі. Валерка выкінуў дзятла ў сліўняк, каб паглядзець, як з яго шкілет зробіцца. Праз гэтую прыдумку хлопца самога празвалі Шкілетам. Але ён не крыўдаваў на мянушку, наадварот, ганарыўся. І аднойчы прапанаваў зазірнуць у акно кінутай хаты наводшыбе, сцвярджаючы, нібы там за грубкаю ляжаць парэшткі былога гаспадара сядзібы.

Спякотным поўднем мы падышлі да хаты. Аканіца была выдраная, шыба выбітая, мабыць, туды лазілі зладзеі ў пошуках спажывы. Па чарзе мы зазірнулі ў акно. Святло амаль не трапляла ў хату: астатнія цэлыя вокны былі закрытыя аканіцамі. Вакол мура раслі слівы. Вядома, ніякіх чарапоў і шкілетаў мы там

за грубкай не ўбачылі. Але адтуль патыхала нежылой вільгаццю, цемрай і, здавалася, смерцю. Страшна зрабілася. Мы паверылі: у такім месцы шкілеты маглі быць. Прыйсці сюды яшчэ раз ніхто не адважыўся.

Тым часам лета ішло на згон. Саспела калгасная кукуруза — ласаваліся ўдосталь. За гародамі зжалі жыта. Штовечар мы коўзаліся са сціртаў. У выніку — адзежа поўная асцюкоў, ногі ўшчэнт сколатыя ржышчам. Усе дарослыя, каторыя шчэ маглі хадзіць без кіёчкаў, штосілы, як сцямнее, цягалі салому сабе на падворкі. Нас, малечу, з сабою не бралі, таму паход па калгасную салому ўяўляўся справай захапляльнай і рызыкоўнай. У вёсцы не першы ўжо раз збіраліся раўняць дарогу. Кучы гліны і пяску ўзвышаліся пасярод вуліцы побач з ямкамі. Вада пакрысе размывала гэтыя гурбы, утваралася гразь, якую прыемна мясіць босымі нагамі пасля цёплых яшчэ дажджоў. У лужыны можна шпурляць каменьчыкі і мераць іх глыбіню. Жыццё было цудоўным. Дзяцел у сліўняку сапраўды ператварыўся ў шкілет. Валерка начапіў сабе на шыю галаву з дзюбаю. Мы ўсе яму зайздросцілі. Адзінае, што засмучала, — хуткае развітанне з сябрамі: канікулы канчаліся. Мы жылі ў розных гарадах. Ніколі я так не плакала, як у дзень ад’езду дадому. Суцяшалі толькі думкі пра наступнае лета. Зноў збярэмся, зноў будзем гуляць разам — усё паўторыцца. Як жа я тады памылялася.

Праз год мы насамрэч сустрэліся. Не было толькі Валеркі. Сумная вестка прыйшла яшчэ ўвосень. Няшчасны выпадак. Валерка з сябрамі гуляў на закінутай будоўлі, якіх у той час было багата. Нечакана абрынулася цагляная сцяна. Прыціснула насмерць. Пахавалі нашага сябра на вясковых могілках. Сцішаныя, з букетам палявых кветак, мы прыйшлі адведаць яго. Увышыні рыпелі вершаліны соснаў, з помніка на нас пазіраў Валерка — такі, якім мы яго запомнілі.

Можа, тады й прыйшло канчатковае ўсведамленне таго, што жыццё не толькі цікавейшае, але й страшнейшае за самую жахлівую казку. А цагляныя сцены, п’яныя камбайнеры тояць у сабе куды большую пагрозу, чым уяўныя шкілеты за грубкаю. Пра леташнія гульні ў хаўтуры мы не ўзгадвалі. Хапала розуму як мага радзей трапляць на вочы Валеркавай бабе. Старая, пабачыўшы нашую пасталелую за год банду, заўсёды плакала і прыгаворвала:

— Во й мой такі ж быў бы...

Лужыны на вуліцы я больш не мерала. Справа нават не ў дарослых, што пачалі ўшчуваць за надта ўжо дзіцячыя для маіх гадоў забаўкі. Проста лужыны на дарозе зніклі. У вёсцы, першы і апошні раз за ўсю яе гісторыю, паклалі асфальт.

Змянілася й маё стаўленне да працоўных абавязкаў. Бабулі ўдалося пераканаць мяне, што ад зелля на свінні мяса расце. Падрослы арганізм патрабаваў ужо не толькі цукерак, але

й паляндвіцы. З мараю пра спрэс мяснога парсюка я апантана пхала ў кошык амерыканскую канюшыну. Дзіўная рэч, хаця кошыкі гэтым годам былі паўнейшымі, чым леташнія, яны зрабіліся значна лягчэйшымі.

Маленства кацілася пад горку.

# Хроніка маладосці

— Дзевяць г*а*дзін на Беларусі, — як заўжды знянацку, гаўкнула радыё.

Рука знямела, у спіну дзьмула, мабыць, коўдра спаўзла. Галава нібы цэбар зрабілася, у роце смажыла. Сцяпан Маліноўскі — п’яніца са стажам, жыхар спальнага мікрараёна, пенсіянер і ветэран вытворчасці ў адной асобе — з цяжкасцю прачынаўся на роднай канапе. Раніца надыходзіла другі раз запар. Першы раз Сцяпан пралупіўся яшчэ а шостай. Гэта памятае добра. Памятае, як хадзілі з хлопцамі па віно і ўзялі чатыры бутэлькі. Памятае — дзве выпілі ў двары, дзве прыхаваў дома. А вось дзе прыхаваў — не памятае, хоць забі! Мо ў шафе, а мо і ў кішэні паліто... Крый божа, жонка, ідучы на працу, згледзела, тады пішы прапала. Дармаеды! Толькі й глядзяць, каб абабраць, а так нікому на старасці гадоў не патрэбны. Жонка цэлы дзень у канторы с...аку сваю праседжвае, і ў хаце не пераробіцца. Сын зусім дома не спатыкаецца, жыве з нейкай, у яе кватэра і дзіця, толькі па грошы й прыходзіць. Дачка наадварот — дзень тырчыць дома, кабыла такая, усё на бацькавым карку, а клопату й увагі не дачакаешся. Вось і зараз — вада ў ванне цурчыць, зноў нешта яна там мые! Не каб падысці ды спытаць: «Ну, як ты, тата, ці не трэба чаго?»

Ад горкіх думак у Сцяпана ажно левы бок засвярбеў. Павярнуўся, пачухаўся — штосьці

бразнула. З-пад канапы выкацілася пляшка віна «Купалінка», з папараць-кветкай на этыкетцы.

— Надзейны схоў! — узрадаваўся дзядзька, адшукаў у кішэнях рэшткі закускі — паўгурка і разлезлы пячэнік, адкаркаваў зубамі «Купалінку».

У гэты момант цурчэнне вады сціхла, з ваннага пакоя высунулася дачка Марынка — колішняя выдатніца бібліятэчнага тэхнікума, пасля перадавічка ў шапіку, а цяперака проста беспрацоўная.

Угледзеўшы чарговую бацькаву пахмелку, аскетычны сняданак, яна толькі й прамовіла з дакорам: «Ізноў?» Казаць нешта яшчэ было бессэнсоўна — пераканалася неаднойчы. Таму Марынка проста набрала вады ў таз, кінула туды джынсы, парашок развяла, націснула кнопку магнітафона, каб весялей было.

І тут здарыўся цуд! Экспрэсіўная ўсходняя мелодыя літаральна ўварвалася, выбухнула, скаланула ўсю прастору двухпакаёўкі. Гучны мужчынскі голас заспяваў ці то па-арабску, ці то па-турэцку. І чулася ў гэтым спеве незвычайная радасць жыцця, неспатоленая прага кахання і іншыя экзатычныя рэчы.

— Марынка, чаго гэты чачэн так крычыць? — прастагнаў бацька з канапы.

Дачка, занятая шараваннем джынсаў, зачараваная музыкаю, нават не зрэагавала. А калі б нават і звярнула ўвагу на запыт-стогн, наўрад ці змагла б нешта растлумачыць.

Сучасная турэцкая дыскатэка — пазначана на вокладцы назаўжды пазычанага ў кагосьці дыска.

«Малайцы туркі, — зазначыла Марына, — вяселяцца дык вяселяцца, а смуткуюць — аж мароз па скуры. А ў нас? На вяселлі пяюць: “У цэркві стаяла карэта, — і далей па тэксце, — напрасна дзявіцу згубілі...” На хаўтурах гавораць пра памідорную расаду, каларадскіх жукоў і куды чый сын паступаць будзе.

Суцэльная анемія».

— Марынка, Марынка! — перарваў роздум бацька.

Зноў высунулася з ваннай.

Так і ёсць — адвечная песня: напіўся, выцягнуў фотаальбом. Мазгі кампасціраваць будзе. Чорт яго бяры, джынсы ўжо памыла, адно прапаласнуць засталося.

Можна трохі адпачыць.

— Марынка! Ідзі паглядзі, — не пакідаў у спакоі бацька. — Гэта твая баба Маруся, а гэта я і сястра Каця ў маладосці...

Давядзецца падысці, не адчэпіцца. Хаця й бачыла тую Кацю ўжо разоў сто, усё ж зірнула на пажоўклае фота дзеля прыліку.

— Першая дзеўка на ўсе Міханавічы, — працягваў бацька, — пашпарт у яе быў — на вецінара ўчылася, а прыгажуня якая!

Дачка ў абліччы цёткі Каці ў юнацтве не заўважала нічога прыгожага. З фотаздымка вытарашчанымі вачыма паглядала мардатая дзеўка ў цеснай сукенцы з белым каўнерыкам.

— Колькі хлопцаў за ёй увіхалася! І чаго пайшла за гэтага Юрку-дыябетыка? Квёлы, хворы, усё жыццё, як недапечаны які, па бальніцах, санаторыях ездзіў. А Каця рабіла, бы чорны вол, за дваіх. Чорт яго не ўзяў, нягеглага гэтага! Жыве і паміраць не збіраецца... А тут я ў камсамол уступаю, — нечакана перайшоў бацька да наступнага фота. — Дужа карцела ў камсамол уступіць, каб паехаць у горад ды пасля зайсці ў чайную на станцыі. Паспытаць крэм-соды, салодкай белай булкі... А вось тут я ўжо пасля арміі, — адгарнуў яшчэ адну старонку альбома, — як на завод уладзіўся, на першамайскай дэманстрацыі, з сябрамі Пецькам Кушнерам з Клічаўскага раёна і Віцькам Зайцавым — вярбованым з Расіі. Бачыш, дачка, які я быў фраер, як быў малады і жыў у абшчажыціі! Плашч балоння, штаны ў стрэлках! Ніводзін шыбздзік на танцах не чапляўся! Ведалі — у лыч дам!

Варта адзначыць, на тым фотаздымку бацька сапраўды выглядаў фраерам, асабліва на фоне недамеркаў Пецькі і Віцькі.

— Штукаваты хлопец быў гэты Пецька! Аднаго разу на танцпляцоўку прыйшоў у дзедавых лапцях. Але колькі ні даказваў на ўваходзе, што лапці — ягоныя чаравікі, на танцы не пусцілі. Я Пецьку ўзяў за шафера, калі жаніўся. А вось і наша з тваёй мамай вяселле.

Пасля гэтых словаў Сцяпан глынуў віна, спустошыўшы «Купалінку» дашчэнту.

Здавалася, знаёмая да болю хроніка бацькавай маладосці будзе бясконцай. Пашанцавала, што гэтым разам хаця войска не зачапіў, хутчэй бы ўжо дайшоў ва ўспамінах да свайго зорнага часу.

— У 89-м годзе мяне абралі старшынём цэхкама. Дэфіцыты дзялілі. Штаны з лаўсану, касцюмы спартыўныя. А колькі штучных елак зялёных і бліскучых я прывалок дадому і прадаў налева! — з захапленнем узгадваў Сцяпан найлепшы момант у сваім жыцці.

«Ну нарэшце, зараз ужо нядоўга», — з палёгкаю ўздыхнула Марынка.

Праз колькі хвілін прыўзняты бацькаў настрой змяніўся.

— І каму цяпер трэба гэтыя елкі і касцюмы? — тужліва прагаварыў ён.

«Ну ўсё, далей можна не слухаць», — вырашыла дачка і патэпала назад у ванную, не дачакаўшыся прадказальнага фіналу хронікі.

# Казліная помста

Уяві сабе, мой шаноўны дружа, табе тэлефануюць уночы. Здымаеш слухаўку і чуеш хрыпаты голас:

— Ты хацеў свежыны? Я зрабіў!

Якой будзе твая далейшая рэакцыя на гэткае нечаканае паведамленне? Напэўна, сполах, разгубленасць, злосць, запозненая цікаўнасць.

Вось і жыхар вёскі Забалаць, Франусь, крывой акушэркі сын, мусіць, адчуваў нешта падобнае, калі яму а другой гадзіне ночы патэлефанаваў Грышка Бык з суседніх Забудзек. Спачатку Франусь аслупянеў, пасля раззлаваўся, аблаяў свайго начнога суразмоўцу і на ўсялякі выпадак вырубіў тэлефон. Ведама, п'яны Грышка! Чалавек адзінокі, а пагаварыць любіць. Але сон не йшоў.

— А каб яго чэрці, палудурка гэтага ўспароў пасярод ночы, — бурчэла жонка Маня.

— Калі свежына не жарт і не белая гарачка, дык адкуль жа яна ўзялася? — навязлівае пытанне не давала спакою стамлёнай Франусевай галаве. — З гаспадаркі ж у Грышкі толькі конь ды рабы сабака. Значыць, свежыною мог стаць альбо нехта з ягоных жывёлінаў, або сябрукі прывалаклі на падворак скрадзеную быдлячыну.

Ды як паказала жыццё, нават у сваіх самых смелых прыдумках уявіць праўдзівае паходжанне свежыны не здолеў бы ані Фра-

нусь, крывой акушэркі сын, ані ты, мой шаноўны дружа.

Ну, няма ладу на белым свеце! Толькі Франусь з Маняю селі снедаць, у хату ўваліўся Грышка Бык. У адной руцэ ён валок торбу, у другой — валасатую нагу з капытом.

— Гэта ж пайшоў я ўночы па калгасныя кіяхі. А там ляжыць каза дзікая. Можа, камбайн падрэзаў. Ну, я яе віламі і дакалоў. Мяса пачаў варыць адразу, як дадому прыйшоў. Калі добра ўварылася, вам пазваніў, — па-хуткаму распавёў Грышка, кінуў нагу з капытом на канапу, а мяшок на стол паставіў:

— Частуйцеся мяскам!

— Ну, і напужаў ты нас ноччу! — абазваўся Франусь.

«Прынесла цябе халера ясная якраз сёння! Работы процьма, гарбузы з гарода ў варыўню паўносіць, бульбу дробную ў мяхі паперасыпаць. Што ж, цяперака не выганіш. Са сваім прыйшоў. Ды й конь у яго адзін на дзве вёскі. А нам хутка гарод пераворваць. Давядзецца паўлітру паставіць. Хай п'е, каб яму зарвала», — разважала Маня, а ўслых толькі й паспела заўважыць:

— Чаго ты пацёгся ўночы па тыя кіяхі? Іх жа і ўдзень ніхто не пільнуе.

Грышка развязаў торбу з казляцінай — смурод паплыў па хаце.

— Кепска вымачыў, — Маня ўзяла патэльню і накіравалася да пліты. — То, мусіць, не каза, а казёл быў.

— Мо й казёл, — не стаў спрачацца Грышка, баючыся застацца без дармавой паўлітры.

— Нічога, нічога, дай болей спецаў, — параіў крывой акушэркі сын, згодны на любую закуску.

Узялі па чарцы. Франусь заўзята калупаў відэльцам мяса. Грышка павесялеў і завёў заўсёдны бясконцы расповед пра сваю радню. Са сваякамі Грышку не пашанцавала — іх было зашмат. Мала таго, што меў трох родных і чацвёра зводных братоў і сясцёр, дык яшчэ й сам тройчы жаніўся, кожны раз няўдала. Сваяцкая кодла псавала брагу, крала гарбузы, хавала бацькоўскую ашчадкніжку, употайкі разбірала плот на дровы, выклікала міліцыю ды й ці мала што яшчэ. Складвалася ўражанне, нібы на Грышку несупыннаю вайною апошнія сорак гадоў ідзе ўвесь белы свет.

— Вось я чалавек парадачны. А якая мая сястра ў другой стрэчы Нінка? — пытаўся Грышка сам у сябе.

— А то мы не ведаем, хто ты і адкуль ты, — уступіла ў спрэчку Маня.

— Мая сястра Нінка — гадасць з гадасці! Два гады таму ў госці прыязджала. Потым знюхалася з цюрэмшчыкам, кумам дачкі матчынай цёткі Алёны, каторая замужам за лесніком. Вось два бройлеры з двара і зніклі. Я маці так і сказаў: гэта толькі іхняя работа...

Яшчэ выпілі. Грышка еў бульбу як не ў сябе, балбатаў і балбатаў, прыпамінаючы ўсё новыя падрабязнасці пазалеташняга злачын-

ства супраць бройлераў і чалавека, не збіраўся спыняць сваё гасцяванне.

«Колькі ты мне тут ачэртаць будзеш? Ага, гадзіла б я табе, каб не твой конь. Мабыць, сам разам са сваёй раднёй дуркаватаю прапіў тыя куры ці з'еў, не помніш ні халеры. І мой, бязмен дурны, плявузганне гэтае слухае, рот разявіўшы. Не ў галаве яму, што работы мора».

Захмялелы «бязмен» тым часам ва ўсю ласаваўся нясвежаю свежыною, адпіхваючы ўбок бульбу:

— Я абвяшчаю бульбе байкот, яна перасолена!

— А я абвяшчаю байкот казлу! — страціўшы цярпенне, ляпнула дзвярыма Манька і накіравалася на свае соткі.

— Я чалавек парадачны... — несліся наўздагон ёй словы казлінага паляўнічага.

Ураджай радаваў вока. Кабачкі ды гарбузы ляжалі ў барознах гладзенькія, як укормленыя парасяткі. Пазносіла іх у варыўню, бульбу ў мяхі паперасыпала. Тупала б яшчэ, але, як ні пніся, усю работу не пераробіш. Замарылася, есці захацела. Абедаць позна, вячэраць шчэ рана. Не згледзела, як час прабег. Аўталаўка ўжо хутка. Праз вуліцу Маня шкрэбала са сваіх сотак дахаты.

На суседавай лаўцы ў чаканні аўталаўкі было як ніколі людна і весела. Мала таго, што паў-Забалаці сабралася: тры бабы і глухаваты дзед Васіль, дык яшчэ забудзькаўская дачніца прывалаклася — Адэля ці Алеся? Не, Аксеня,

пыльным мехам пацопаная, па чужых дварах швэндаецца, языком малоціць, нібы дома работы нямашака.

Дзед Васіль уключыў транзістар на ўсю моц і цяпер цешыўся жыццём:

— Усе дзеўкі каля мяне! Я гарманіст!

Абмяркоўвалі тутэйшыя навіны. Адны й тыя ж, Маньцы даўно вядомыя. Галя ездзіла ў горад зубы ставіць. Старую Ахрэмчыху забрала «хуткая», урач паглядзеў і сказаў: «Мусіць, у яе нешта нехарошае». П'яны Віцька Сцёпішын згубіў пад лаўкаю кансерву і ліверную каўбасу.

І раптам:

— Ну, яна й кажа: «Бяры гэтую казу сабе. Мае Найда з Шарыкам маленькія, шчэ патруцяцца і здохнуць, а твой Тузік вялікі, з'есць тое мяса, халера яго не возьме...» — пачула Маня голас забудзькаўскай дачніцы Аксені.

Здагадка аж апякла ўсё ўсярэдзіне. Вобміг падскочыла да той дачніцы і пачала распытваць. Высветлілася наступнае. У Надзі, Грышкавай суседкі праз вуліцу, захварэлі козы. Адна прапала ўжо, другая ў хляве раніцою не падымалася. Па ўсім відаць, канала. То Надзя і папрасіла Грышку Быка зарэзаць казу, а мяса забраць свайму сабаку.

А божа мой, а мілы мой! Ды пайшоў ты, Грышка, гад такі, разам са сваім канём! Бывае, праз таго клятага казла Франусь занядужае ці, не тут казана, перакуліцца. А ў гародзе сама работа, ды й чаравікаў няма, касцюма новага

няма, пашпарт кудысь збаёдаў, — думкі адна страшней за другую гналі Маню на падворак.

У хаце было ўсё па-ранейшаму. Баляванне працягвалася. Паўлітру спустошылі і ўзяліся за націрку для каленяў. Франусь злупіў патэльню мяса, ад з'едзенага і выпітага яго цягнула на сон. А Грышку і чэрці не бралі! З ваяўнічым запалам ён мацюгаў свякруху нейкай Ларысы. Тая нібыта ўгаварыла ці то дзедавага брата, ці то братавага дзеда перапісаць хату на яе ўнучку. Франусь спачатку спрабаваў зразумець, адкуль узялася Ларыса разам са свякрухаю і кім яны абедзве даводзяцца Грышку, але неўзабаве кінуў марную справу.

Грышка адсутнасцю слухача надта не засмучаўся, ён працягваў сваё плявузганне:

— Прыязджаю, а яны плот разабралі. Ах вы, кажу, падлы, з сіраты іздзяёцеся! Я чалавек парадачны. А Грунін Лявон га...но з га...на.

— Ты прывалок сюды здохлага казла, а парадачныя людзі так не паступаюць, — уляцела з сенцаў раз'юшаная Манька. — Вон з хаты, свіння ты п'яная!

Парадачны чалавек і ўласнік адзінага каня, убачыўшы шалёны бляск яе вачэй і матыку ў руках, чакаць сябе не прымусіў. Ускочыў з-за стала ды ходу.

«Бязмен» дрыхнуў за сталом, хроп, як мядзведзь, і паміраць відавочна не збіраўся.

— Я адна на гародзе кішкі рву, а ты п'еш, апудайла лянівае! — шкуматала раззлаваная Манька аматара халяўнай свежыны.

Ён сапраўды падняў галаву, хмель пачынаў крыху разыходзіцца. За акном стаяла цёплая восень, шапацелі яблынькі ў садзе, мяккае вечаровае святло сцялілася па палавіцах. Свет здаваўся такім утульным. Францусю раптам захацелася сказаць жонцы нешта добрае, прымірэнчае:

— Казла з'елі, і ладна. Не бяды, што смярдзючы.

## *Замест эпілога*

А ўвогуле гэтая гісторыя скончылася не так пагана, як пачыналася. Францусь, крывой акушэркі сын, жыхар вёскі Забалаць, жывы і здаровы. Манька памірылася з Грышкам. Што ж рабіць? Чалавека шкада, казла не вернеш, а гарод пераворваць усё адно трэба.

# Кропелькі

*Маладым змагарам*
*за ўраджай*
*прысвячаецца*

— Ну, унучка, адпачыла з дарогі, то падымайся, трэба жукоў пырскаць, — нечакана пабудзіў мяне бабулін голас.

Расплюшчыла вочы, гляджу на сонечны праменьчык, што прабіваецца праз шчыліну аканіцы, і прыгадваю: маці, выпраўляючы мяне ў вёску, казала тое самае.

Упершыню ў сваім шаснаццацігадовым жыцці жукоў труціць — справа адказная! Падхопліваюся, апранаю спартовыя нагавіцы, латаную дзедаву кашулю, павязваю хустку жоўтую з сіняватымі плямамі ад чарніцаў. Усоўваю ногі ў бацькавы гумовікі сорак другога памеру. Цяжка на нагах валачыць, але нічога не зробіш, іншых нямашака. Так, пальчаткі, атрута, хаця б нічога не забыцца.

На сотках мяне чакае знаёмая цынкавая выварка з вадою. Аб край разбіваю ампулы. Цяпер яны плывуць па вадзе, нібы самалёцікі ў небе, пакідаючы за сабой бялюткія сляды. Перамешваю ваду трэскаю, і ў выварцы ўтвараецца маленечкі атрутны вір.

Іржавая даёнка налітая да паловы, на тры баразны павінна хапіць. Адшукваю леташнюю, аблытаную павуццём бярозавую мяцёлку і крочу па роднай зямельцы. Клятая даёнка

рэжа руку, часам вадкасць булькае і пляскае мне на боты. Рухамі старажытнага сейбіта з падручніка гісторыі я раскідваю па наваколлі пырскі казюрчынай смерці. Усё макрэйшымі робяцца картаплянік ды калашыны нагавіцаў. Вясёлкавым ззяннем пераліваюцца на зялёных лісціках атрутныя кроплі. Мае ворагі — чырвоныя, паласатыя — спелымі ягадкамі падаюць долу.

От, бляха! У вока трапіла гадасць гэтая! Пячэ няможна! Хуценька лячу дахаты. Ратуюся халоднай вадзіцай. На стале ляжаць сонечныя акуляры. Ну ўсё, у акулярах мне нічога не страшна. Зараз я вам, паганцы, пакажу! Ізноў да змагання! Не можа таго быць, каб я не перамагла...

На дзясятай баразне ўжо не куляюся, а цягнуся. Ледзьве падымаю ногі й даёнку. Боты ўдвая цяжэйшымі зрабіліся, спіну ломіць, рука сама сабой калоціцца дробненька. Два камары адначасова за шыю і лоб укусілі. Не пачухаешся аніяк, на пальчатках атруты ўсё болей.

Астатнія барозны амаль прапаўзаю. На двары звечарэла. Хмара невядома адкуль насунулася. Хаця б не дождж, а то ўся работа кату пад хвост...

Рэшткі вадкасці выліваю на калгаснае жыта, так дарослыя заўсёды рабілі, каб нашыя куры не патруціліся. Гонарам поўніцца душа. Няхай сабе ногі, рукі мокрыя, брудныя, але затое зрабіла не горай як у людзей. Не з'ядуць жукі бабінай картоплі.

Тэпаю на вуліцу, сядаю на лаўку.

— Ты што, малая, ідзі мыцца! Скідай адзёжу етую к такой матары. І сто грамаў выпей. А то назаўтра не падымешся. Мы вунака праз етае пырсканне два дні качаліся і рыгалі! — вучыць жыццю суседка.

Мыюся на двары вадою з ночваў. Гаючыя струменьчыкі бягуць па стомленых нагах, плячах. Укруціўшыся ў вялізны мультановы халат, увальваюся ў хату. На гадзінніку палова на адзінаццатую.

— А маё ты дзіця, намучылася, — гэта ўжо бабуля спачувае.

Сядаю да стала. Наліваю чарку, каб уранні здаровенькай прачнуцца. Заядаю разлезлымі макаронамі. Над вухам спуджаная муха бзыкае. Шчокі расчырванеліся. Па тэлевізары кіно пра іспанскую прынцэсу паказваюць. Знадворку, вось паскудства, дождж пачынаецца. Па даху, па слівах ужо лупіць.

Марныя пакуты мае. Навошта рвалася, дурніца! Каб яны павыдахлі ўсе, тыя жукі! Заплакаць не маю моцы, млявасць і сон апаноўваюць мяне. Шэры начны матылёк упарта б’ецца аб шыбу. На дне чаркі высыхаюць рэшткі самагону, апошнія кроплі майго дзяцінства.

# Дзень напаўжывога чалавека

Кожны, каму хаця б раз даводзілася ўдзельнічаць у віншавальнай агітбрыгадзе, ведае: каб парадаваць слухачоў сваім выступам, а сябе чаркай і прэміямі ў гонар не важна якога свята, зусім неабавязкова мець артыстычныя здольнасці.

Дастаткова ўменне прамаўляць словы песні блізка да тэксту і прыстойнага выгляду, то бок: не спітага твару ды чыстага паліто, апранутага паверх псеўданароднага строю з мясцовага ДК.

Гэтым разам адзначалі Дзень пажылога чалавека — свята культавае ў нашых мясцінах. Васьмігадовы сын маёй знаёмай вымаўляе па-свойму: «Дзень полужывога чалавека».

Святкавалі звыкла. Імжа, восеньская халадэча, старэнькі аўтобус. На першым сядзенні — дзядзька з баянам (ледзьве ўгаварылі), хуткія распеўкі (хаця б паспець). Назвы вёсак былых калгасных брыгад плывуць за вокнамі, настрой у артыстаў, як пішуць у раёнцы, прыўзняты. Самадзейныя канцэрты гарантуюць адрыў ад працоўнай будзённасці на цэлы дзень.

Слухацкая аўдыторыя забяспечана — у дадатак да песняў старым будуць выдаваць па 4 кг круп. Мы ведаем — усё будзе не горш, як тады.

Урэшце даехалі. Спыніліся ў напаўразбураным будынку, які быў спярша клубам, потым складам. Пачалі збірацца пенсіянеры.

Мы заспявалі «У саду гуляла», «Мае вочы чорныя», нешта з рэпертуару савецкай эстрады паваеннага часу. Баяніст хвацкі, словы не блытаем. Уражанне нішто сабе.

І раптам нехта з супрацоўніц канторы зацягвае сваю ўлюбёную «Шарманку», тую, што Мікалай Баскаў пяе. Песня парадкам аб'ела вушы, штодня па радыё круцяць, але нічога не зробіш, усе разам спяваем пад баян:

Ўлякуць лі мячты небывалыя,
Цвітуць лі цвяты запаздалыя —
Ўсё так жа рыдае шарманка,
Ў Парыжы яна чужастранка...

У непрапаленай халупе са столі звісае павуцінне. У куце паламаная падлога, побач ляжыць забыты мех з салетраю.

Лаўка толькі адна, месцаў не хапае. А бабулькі, дзядкі нібы з абразоў пасыходзілі: вочы сумныя, жыццё ў целе ледзь ліпіць, стаяць на кіёчкі абапёршыся, абяцаныя крупы чакаюць — гарох, грэчку, проса.

— А што як удваіх, дык на зіму хопіць, — шэпча нехта.

«Ўздыхае шарманка, раняе улыбкі,
Рыдае шарманка з душой первай скрыпкі...» —

падцягвае хор, збольшага трасянкамоўная інтэлігенцыя ў паліто, пятнаццаць год таму купленых (яшчэ не бяды), у шапках, моллю пасечаных (амаль незаўважна).

За акном з пабітаю шыбаю — вёска, беларускія, немілагучныя Трэбухі, калісь перайменаваныя ў мілагучную расейскую Калінавую.

Ўсё так жа рыдае шарманка
Ў Парыжы яна чужастранка...

Усё. Больш не магу, змаўкаю. Мяне раптоўна ахоплівае стан, блізкі да істэрычнага прыпадку. Хочацца качацца па падлозе пад акампанемент шлягера, смяяцца і плакаць адначасова, абняўшы ўсіх прысутных. Ледзьве стрымліваюся. Па тварах астатніх самадзейных артыстаў бачу — з імі таксама робіцца нешта падобнае. Недалёка да масавага псіхозу. Так і не скончыўшы апошняга куплета, змаўкаюць усе мае паплечнікі па вясковых гастролях.

— Не трэба больш спяваць гэтую песню, — выказвае агульную думку намеснік старшыні калгаса па ідэалагічнай рабоце.

Старыя ўрэшце атрымалі свае крупы. Аўтобус пакаціўся далей у памежную са Шклоўшчынай вёску. Пасля стала, накрытага пасярод дарогі ў адным з завулкаў, і прыпевак з мацюкамі тамтэйшых старажылаў самаадчуванне прыкметна палепшала.

Пра шарманку болей не ўзгадвалі.

Напаўжывое свята набліжалася да свайго прадказальнага фіналу — чаркі, селядцоў «Мацiас» і невялічкай грашовай прэміі ў далёкай перспектыве.

# Вянок цыбулі

Кожны чалавек у сваім жыцці павінен пасадзіць дрэва, пабудаваць дом...

*Застольная псеўдамудрасць, канец 20-га стагоддзя*

Дзень хіліўся да вечара. Пад разлапістаю грушай сядзела Адэлька і вязала ў вянкі цыбулю. Цыбулька гэтым годам не надта ўдалася. Ведама, гарачыня ўсю зямельку ссушыла ды шчэ груша сокі з гарода цягне, хоць не родзіць амаль. Папраўдзе, ніколі не было на дрэве добрай садавіны. Саджанец Адэлька з мужам яшчэ тады ў далёкай маладосці выкапалі ў садзе местачковага яўрэя. Падмануў местачковец. Ігрушы былі дробныя, каравыя, не ўгрызці, а пасля зусім звяліся. А цяпер мала што не расце нічога, дык і голле два акны ў хату засціла, вільгаць ды цвіль не зводзіцца. Раней колькі разоў прасіла зрэзаць грушу, але дарэмна. Зараз ужо няма каму ані пілаваць, ані секчы. Год як няма ў яе мужа, а чацвёрты дзень і сына.

Мужык яе Ігнат хварэў. Апошнія тры гады рэдка ўставаў з ложка, ляжаў лежма, што п'яны, што цвярозы. Ногі не трымалі, сэрца калацілася, мог, падняўшыся, грымнуцца. А як звалася тая хвароба, Адэлька й не ведала. Урач з хуткай дапамогі неяк прыязджаў да суседкі, паглядзеў Ігната ды й кажа:

— Што ж вы хочаце, гады ўжо. Яму б у бальніцу абследавацца...

Ды хто ж яго ў той бальніцы даглядаць будзе, на чым яго везці? Баяўся туды класціся. Мо і правільна. Не ад хваробы і памёр. Пры жыцці лячыўся націркамі на гарэлцы. Часцей у вантробы прымаў, чым націраўся.

А Адэлька цягнула на сабе і хату, і гарод, і яго глядзела. Сын Вова з горада ўцёк, на бацькаўшчыну вярнуўся. Спачатку маці нават узрадавалася. Думала, дапамога будзе, хату на Вову перапісала. А яно вунь як выйшла! Стары грошы з пенсіі прыхавае ды Вову аддасць, а той у краму. Глыкчуць разам, пасля сварацца. І крычала, і прасіла, і страшыла... Ды дзе там!

За дзень да сваёй смерці Ігнат аб ганак разнуўся, ладна пабіўся, гузак на лбе, рука ўся сіняя. А назаўтра, як у горад паехала, напіліся разам з сынам. Ці атруціўся сурагатам, ці проста перабраў — невядома. Прытэпала адвячоркам з аўтобуса, а ён нежывы ўжо. Бабы ж у вёсцы прыдумалі, нібы гэта Вова бацьку да смерці выцяў. Першыя дні, як пачуе Адэлька такую звягу, коршакам кідалася:

— Ды не чапаў Вова бацькі. Бывае, таўхануць мог, калі стары пішчом у вочы лез, а біць не біў! Ігнат сам стукнуўся.

Але яе ўпартасць толькі пераконвала аднавяскоўцаў у праўдзівасці плёткі:

— Скуль яна ведае? У горадзе ж была. На двары дужа крычаў нехта, а чалавек то ці цілівізар — хто знае? Шыла ў мяшку не ўтоіш.

Аднак пагаманілі і забыліся. Мінуў год. А сынок піў мо з тыдзень, а тады набраў сабе нечага ў галаву ды ў хляве павесіўся.

«І чаго ж ім не жывецца, га? Божухна... Усё ж ім ашчаджала. Ніколі не паляжала хвілінкі спакойна... І наварана было, і прыбрана», — каторы раз падумала Адэлька. А слёз не было. Толькі здранцвенне суцэльнае і звычная туга, што за апошнія гады сталася заўсёднаю бабінай сяброўкай.

— Во, палудуркі гэтыя Маньковічы! Штогод хаваюць, — лапаталі людзі.

— Віна Вову замучыла, што бацьку на той свет адправіў, — папоўз з хаты ў хату працяг даўняй плёткі. Ды Адэлька была ўжо не тая. Скамянелая, учарнелая ад гора, змучаная заўсёднаю сваёй тугою, не мела моцы сварыцца, даказваць сваё. Усё перамяшалася ў галаве: мана і праўда, ява і здані. Сын прыходзіў да яе ў снах, і чамусьці толькі маленькім.

— Маўчыць, а што тут рабіць будзеш, як праўду гавораць, — па-свойму адрэагавала вёска.

І Адэлька маўчала. Пахавала сына. Стол зладзіла. А на чацвёрты дзень узялася парадчыць цыбулю, каб рукі заняць працаю. Яна і сама была падобная да той цыбулькі — дробненькая сухенькая бабулька ў выцвілай жоўтай хусцінцы. Адэлькаю нарадзілася, Адэлькаю замуж выходзіла, Адэлькай век дажывала. Адольфінай Францаўнай давялося пабыць толькі ў сельсаветаўскіх позвах. Калісьці такое

звыклае, а зараз рэдкае яе поўнае імя было непрыдатным для штодзённага існавання, гэткім жа, як ігруша пад акном і як зрабілася цяпер непрыдатнаю вялізная, не прапаліць, хата. На халеру ёй адной такі клуб. Праўда, ёсць яшчэ дочкі Ганя з Валяй. Ды толькі Ганя замужам аж у Сібіры, зусім хворая, рукі пакруціла. То яна нават на хаўтуры не прыязджала, грошы на вянок даслала.

І Валя з райцэнтра не паказваецца, купіла лецішча ля горада. Пасля таго як хату на Вову перапісалі, сказала:

— Насіся са сваім алкаголікам, што дурань з пісанай торбаю, а раз тут майго нічога няма, дык я сюды не паеду!

Павязаўшы ўсю цыбулю, старая ўзяла два вянкі і пашкрэблася ў хату, якая пасля смерці Вовы спусцела і здавалася яшчэ большай. А ў астатнім усё было па-ранейшаму: пах недапалкаў уеўся ў сцены і не жадаў вычыхвацца.

Пакінуўшы цыбулю на цвіках ля печы, Адэля адчыніла лядоўню і ўбачыла рэшткі вэнджанай каўбасы, што засталіся ад стала. Жадання не было, але раз на падносіку нарэзана — трэба з'есці. Чым дабру прападаць, дык няхай жывот лопне... Адэля ўзяла кавалак і пачала старанна пераціраць яго рэшткамі зубоў, да канца не верачы ў саму магчымасць есці павольна, у тое, што ніхто не адбярэ, не спыніць уладнымі словамі: «Пакінь мне!», што нават не з'едзенае сёння застанецца ляжаць на падносіку, ніхто не кране без дазволу, не

вынесе на закуску сябрам, якія праглынуць усё без меры і разбору. Адэлькай раптам апанавала пачуццё віны, пачало дакараць і гнясці нават за гэтае хвіліннае, маленечкае, выпакутаванае задавальненне: «Во, сынок у зямлі сырой, а я жыву і прысмакі ем»...

Акно было расчыненае. На суседавым падворку сядзелі бабы. Паглядаючы ў бок Адэльчынай хаты, Пракопчыха з Юстынаю гучна засакаталі:

— Во, дзяцей пагадавала, а цяперака адна як бізун засталася.

— Маўчы ты, раз адплакала, затое хоць пад старасць пажыве па-чалавечы.

Змучаная бабка ўсё яшчэ ласавалася каўбасой ад жалобнага стала. І раптам нібы старая чарапаха вылузнулася з панцыра, на імгненне зрабілася ранейшай Адэлькай, якой была, пакуль туга ды пакуты не ўбіліся ёй у таварышкі. Увішная, вострая на язык кабета, каторая яшчэ баялася звягі ды абгавораў, выскачыла на ганак ды гаркнула на ўсю вуліцу:

— Па сваіх паплачце, сарокі дурныя!

Юстына з Пракопчыхаю аж знямелі ад нечаканага адпору.

— Мае якія не былі, а па чужых дварах не цягаліся, як каторыя зладзеі ды цюрэмшчыкі... — біла па самым балючым Адэлька. Бо сыны Пракопчыхі, не кажучы пра Юстынінага мужыка-нябожчыка, таксама мелі багата заганаў.

— Мы ж нічога такога не сказалі. Мы ж, Адэлька, шкадуючы... — урэшце ачомалася Юстына.

Але Адэльцы было ўжо ўсё роўна, чарапаха ізноў схавалася ў свой панцыр. Аднекуль усё выразней чуўся бусліны клёкат. Перад адлётам у вырай буслы збіраюцца ў чародкі і гуртам вандруюць па наваколлі. Белыя і чорныя, усе разам яны ляцелі над вуліцаю ў мяккіх сонечных промнях адвячорка. А ўнізе маленькая сагнутая постаць ледзь шкрэбаючы цягнула кудысьці свой апошні вянок цыбулі.

# Перамагчы палтэргейст

«У з’яўленні палтэргейста могуць быць вінаватыя язычніцкія пахаванні» — артыкул раёнкі пад такою назваю патрапіў мне на вочы ціхаю летняй ранічкай, каб змяніць жыццё назаўжды.

Але гэта было потым, а тады ж я ні пра што такое і блізка не магла здагадацца. Проста мой позірк выпадкова зачапіўся за чарнічны россып дробных літараў і ўжо не здолеў прапусціць той газетны радок. «У з’яўленні палтэргейста вінаватыя язычніцкія пахаванні — да такой высновы прыйшлі супрацоўнікі абласной газеты “Дняпроўскія хвалі”. Нагадаем, у ноч на дзясятае ліпеня ў доме па Кастрычніцкім завулку рабіліся дзіўныя рэчы: са столі то лілася вада, то сыпаўся пясок, то самастойна перамяшчалася мэбля, то загараліся фіранкі. Як паведаміла дырэктар краязнаўчага музея Анціпенка С., некалькі год таму непадалёк ад завулка, на беразе ракі Вільчанкі былі знойдзеныя старажытныя пахаванні 2–3-га ст. н. э, што ўтваралі сабою кола, у цэнтры якога, магчыма, знаходзіўся ідал і праводзіліся рытуальныя ахвярапрынашэнні», — чытала я, і абурэнне скаланала мяне. Канечне, нават па гэткім пытанні ўласных думак няма, абавязкова найперш з вышэйстаячай інстанцыяй параіцца трэба! Усё яны ў вобласці лепей за нас ведаюць — і хто вінаваты, і дзе ідал у 2-м ст. нашай эры стаяў. Так ужо павялося: які б бяз-

мен з вобласці ці сталіцы ні прыехаў, ён тутака і найвышэйшы суд, і першы разумнік, адным словам — ледзь не намеснік госпада на зямлі.

«Не выключана, што палтэргейст звязаны са старажытнымі могілкамі. Іншых рацыянальных тлумачэнняў няма», — запэўнівала раёнка.

«Ёсць, яшчэ й як ёсць», — затахкала раптам у скронях. Пахаванні тыя стагоддзямі не заміналі нікому, дый гарадскі парк адпачынку куды бліжэй да Кастрычніцкага завулка, чым рэчка Вільчанка. Хаця на памерлых усё спіхнуць, вядома, прасцей. Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна — нечаканае прызнанне чамусьці ўсплыло словамі калектыўнай споведзі ў касцёле. А ў памяці паўстаў той спякотны травеньскі дзень, за які да сёння сорамна.

Высокае блакітнае, яснае аж да рэзі ў вачах неба. Сонца паліць асфальт бы патэльню. Гарадскі парк адпачынку. Рэзкі вокліч, паўсотні ног, нібы адбіваючы нейкі вар'яцкі рытм, крочаць па зачараваным коле. Грукочуць і грукочуць барабаны. Побач буйным цветам, быццам у апошні раз, красуе старая яблыня. Пісягі чужое крыві на дзіцячых шыях. Вялізная шыльда з надпісам «Дзень піянерскага сяброўства. Агляд сцягавых груп». Дзяўчынка гадоў дзесяці, ёй бы лялькам косы заплятаць, парадным крокам, з каменным выразам твару, шыбуе да стала ў цэнтры. Смірна! Рука да пілоткі. Рапарт. Вольна!

Ля стала стаяць бы ёлупні чальцы камісіі. Кіраўнік усіх піянераў раёна Ніна Раманаўна, мажная цётка з чырвоным тварам, мужна перамагаючы цяжкасці міжзапойнага перыяду паблажліва ўсміхаецца: «Малайчына, і я з гэтага пачынала. Да заканчэння школы яшчэ лепш маршыраваць навучышся!» Старшыня ветэранскай арганізацыі, бадзёры дзядок гадоў сямідзесяці, паціскае дзяўчынцы руку і ўручае дыплом пераможцы: «Расце змена!»

А я, педагог-арганізатар прыгараднай школы, стаю ля яблыні, бліжэй да сваіх выхаванцаў. Мае вусны шэпчуць, як мантру: «Тая ж выхаваўчая работа, тая ж выхаваўчая работа». Мае глузды ўпершыню адмаўляюцца гэта слухаць і ніяк не могуць дапяць: дзе ж мае вочы ўжо бачылі такое жудаснае відовішча? Ага, спапяляючая гарачыня. Ахвярная кроў на руках і шыях хударлявых падлеткаў. Іх ногі зладжана рухаюцца па коле. Гэткія ж гарлавыя воклічы мяжуюцца са змярцвелым маўчаннем. Вялізныя тамтамы ва ўсю моц б’юць. Нават дрэва збоку ёсць. Не яблынька ў квецені, а нешта на акацыю падобнае ці на баабаб які... Тэлеперадача «Клуб кінападарожнікаў», прысвечаная традыцыям дзікіх афрыканскіх плямёнаў.

Абрад нетутэйшай ініцыяцыі на Беларусі. Хіба што ў пыле забыліся пакачацца, і птушка грыф у небе не кружыць, і я, саўдзельніца чужынскага дзікунства, у белай блузачцы стаю.

Хоць ільвіная грыва або футра якой гіены былі б больш дарэчы.

Адразу прыгадалася піянерскае дзяцінства сярэдзіны васьмідзясятых. Хлусня і страх — тая ж выхаваўчая работа. Нейкі ідыёцкі парад у трэцім класе. Я крочу ў форме, якая нагадвае марацкую, на галаве — дзіўны ўбор накшталт бесказыркі. Ён вось-вось збіраецца зваліцца долу, я ж баюся гэтага больш за ўсё на свеце, бо тады нам здымуць нейкія балы і мяне ўсе ўзненавідзяць праз тую клятую шапку, як узненавідзелі тую дзяўчынку з 4 «Б», што зараз стаіць і плача ля сцяны. Усё-такі добра, што ў хуткім часе тая піянерыя ляснулася! Ужо праз якія два-тры гады пераканаць мяне збіраць макулатуру, то бок бясплатна валтузіцца з бруднай паперай, або насіць піянерскі гальштук на шыі, а не ў кішэні, не здатныя былі ані ўхвала, ані пагрозы.

І вось на табе — мінулася дзесяць-дванаццаць гадоў, і я, тая, што хранічна забывалася гальштук дома і як магла ўнікала ад пазакласнай работы, сама рыхтую вучняў да ўдзелу ў дзікунстве раённага маштабу... Чаму абрала такую работу? Ды гэта работа абрала мяне!

Хаця я й не была актывісткаю ў школьныя гады, але вучылася амаль на выдатна. Вось і паслалі мяне ад раёна па мэтавым накіраванні ў інстытут культуры паступаць. Паступіла. Адвучылася. Вярнулася. А тут за пяць год усё перайначылася. У ДК людзей хапае, гурткоў больш, як гуртkоўцаў, у аддзеле культуры

спрэс працоўныя дынастыі... У райвыканкаме прапанавалі ў школу педагогам-арганізатарам, маўляў, будзеш дыскатэкі ды ранішнікі ладзіць. Я пагадзілася — дзявацца не было куды. А пра піянераў ужо на месцы дазналася. «Тая ж выхаваўчая работа», — запэўніла завуч, пабачыўшы мой спалоханы позірк. Я ж думала, што ўся тая лажа даўно ў мінулым. Аж не! На сценах піянерскага пакоя — тыя ж міфалагічныя істоты, запомніць якіх праз адсутнасць індывідуальных рысаў у іхніх абліччах я так і не здолела. І чаму на розных партрэтах Паўлік Марозаў ды Марат Казей па-рознаму выглядаюць? Мо таму, што насамрэч такіх людзей не было ніколі?

Але — я пачала працаваць. Па першым часе нават прыносіла плён грамадству. Ладзіла бясконцыя Дні: ведаў, касманаўтыкі, непалення, барацьбы са СНІДам, Канстытуцыі, вываду войскаў з Афганістана, здаровага ладу жыцця, Савецкай Арміі, дарожнага руху, маці, 8 Сакавіка, Святога Валянціна і халера ведае чаго яшчэ. Павязвала разумнейшым вучням гальштукі і везла на раённыя конкурсы ды канцэрты. І, ведаеце, неяк удавалася ў плынь патрапіць, ніводнага разу без прызавога месца не вярталіся. Аднойчы загадалі выпусціць насценгазету на ваенную тэматыку. «І калі ўжо тая вайна скончыцца», — стагналі настаўнікі. Я не стала маляваць сонечнага зайчыка і ляпіць яму на лоб фотаздымак мясцовага ветэрана, не перапісвала самастойна перадавіцу з раёнкі, як

арганізатар суседняе школы, а пайшла іншым шляхам. Памяняла ў той перадавіцы месцамі сказы, а перапісаць прымусіла вучаніцу, не дужа кемлівую, але старанную дзяўчынку, каб кідаўся ў вочы дзіцячы почырк, апроч таго ўнізе пазначыла выходныя даныя органа друку. У выніку стала пераможцам, атрымала саламяную ляльку ў падарунак!

Піянерскімі справамі ў раёне кіравала Ірачка, дваццацівасьмігадовая маладзічка. Караценькая спаднічка ў гармонік, заўсёдны піянерскі значык на камізэльцы, як гулліва сцвярджала яна сама — цудоўная падстава для знаёмства. Гэтая супрацоўніца аддзела адукацыі хутчэй нагадвала пераспелую васьмікласніцу і ніколі не забывалася нават на адказных мерапрыемствах у гонар Вялікай Айчыннай страляць вочкамі ў бок баяніста Лёнечкі. Але крыві асабліва не псавала, крыху раззлаваўшы толькі аднойчы. Калі ў 25-градусны мароз запрасіла настаўнікаў з аддаленых вёсак на семінар, каб павучыць іх вырабляць паштовачкі ў форме сэрцайка да дня Святога Валянціна.

Але як бы там ні было, Ірачка свайго дамаглася, зацугляла Лёньку і сышла ў дэкрэт. Вось тут і пачалося самае цікавае! Горай за ўсё, што вайна не толькі не жадала заканчвацца, а нават умацоўвала свае пазіцыі. І прычынаю стаўся не столькі юбілейны год, колькі прызначэнне на пасаду метадыста Ніны Раманаўны — адзінай жанчыны-ваенрука ў раёне. Цудоўнага аргані-

затара, фанаткі піянерскай справы, што апроч мужчынскае прафесіі мела нязломны характар, суворую знешнасць, гучны нізкі голас і нязвычнае для старой дзеўкі захапленне — чарка, часам некалькі дзён запар. Сваю кар'еру ў далёкія васьмідзясятыя Ніна Раманаўна распачала ў якасці піянерважатай вясковай школы, а ваенную падрыхтоўку ўзялася выкладаць ужо потым, скончыўшы тры курсы нечага завочнага і празмерна захапіўшыся маршыроўкай ды ганаровымі караўуламі. Таму першае, з чаго яна пачала, дык гэта так званая сустрэча важацкіх пакаленняў. Звалакла аднекуль сяброў баявога юнацтва, з якімі разам у барабан лупіла, каб тыя павучылі нас працаваць.

Сталы ламіліся ад закускі і выпіўкі, фуршэт зладзілі ў Доме дзіцячай творчасці. Забаўляльнай частцы мог нават сталічны цырк пазайздросціць! Падпітыя дзядзькі і цёткі шыхтамі хадзілі ў пілотках пад піянерскім сцягам і спрабавалі спяваць дзіцячыя песні часоў пачатку перабудовы. А пасля былі бясконцыя навучанні сцяганосцаў, барабаншчыкаў, агляды песні і строю. Складалася ўражанне, нібы напярэдадні Дня Перамогі да ўлады прыйшла ваенная хунта ў асобна ўзятым раёне.

«Дзецям маршыраваць карысна, ля кожнага помніка героям вайны неабходна паставіць піянерскую варту». Гэтым разам чарговая дырэктыва Ніны Раманаўны выклікала нечуваную радасць у вясковых школьнікаў. Абеліскі збольшага месціліся на могілках альбо ля

дарогі — месцах, для дзятвы асабліва вабных. А юныя вартавыя вызваляліся ад заняткаў і мелі цудоўную магчымасць гуляць у хованкі між магільных камянёў цёплымі вясновымі дзянькамі.

Але росквіт мілітарызму прыпаў на вышэйпамянёны дзень піянерскага сяброўства. Колькі вяровачцы ні віцца, а канец усё адно відаць.

Ад таго відовішча я не магла ачомацца яшчэ доўга. Самым брыдкім было ўсведамленне таго, што я і такія, як я, дапамаглі яму адбыцца. Празмерна паслухмяныя хлопчыкі і дзяўчынкі пасталелі, ссівелі, а дарослымі так і не зрабіліся. Ласыя на пахвальбу старэйшых па пасадзе, па званні, па ўзросце — не істотна. Не разумелі? Не бачылі? Шчыра верылі ў сваю правільнасць? Былі і такія. Большасць жа проста сапла ў дзве дзіркі. Прыняўшы правілы гульні, жыццё ў стане перманентнае ганьбы ўзамен на больш-менш забяспечаную старасць. Прыкінуліся ягадкамі-дурнічкамі! Я не такая — чакаю трамвая! Тая ж выхаваўчая работа... Усё перамелецца — неяк будзе...

Не перамалолася гэтым разам! Дачакаліся трамвая! Чужынскія нячысцікі, гукамі тамтамаў пакліканыя, спачатку ў нашыя вантробы ўсяліліся, а потым пачалі і звонку бушаваць. Роўна праз сорак дзён пасля таго сатанінскага парада ў горадзе аб'явіўся палтэргейст.

Скачуць, скачуць афрыканскія чэрці па нашай зямельцы, а мо гэта духі старога капішча з імі сілаю мераюцца? Мусіць, абрыдла стагод-

дзямі глядзець, як кожнае заезджае быдла на іхняй бацькаўшчыне мала што прыжываецца, дык яшчэ і парадкі свае пачынае ўсталёўваць.

З палтэргейстам трэба змагацца — ясна як божы дзень. Але як? Наўрад ці на гэтую нетутэйшую субстанцыю падзейнічаюць царкоўныя водары накшталт ладану, дыхлафос таксама тут не памочнік. Нічога ж іншага я прыдумаць не змагла і звярнулася па параду да аднаго з самых дасведчаных людзей нашага горада ў справах цудадзейных рэчываў і анамальных з'яваў. Вядома, ні ізатэрыкам, ні акультыстам Юра Хвост не быў, такія ў нашых краёх не вядуцца, затое захапляўся ўсім ад сатанізму да магіі, паліў усякую дрэнь, марыў з'ехаць у Тыбет, каторы год забіваў на вучобу і працу, трэплючы бацькоўскія нервы. Карацей, нефармал круцей няма куды — іракез на галаве, на нагавіцах больш дзірак, чым тканіны.

Юрка выслухаў мяне ўважліва і адразу прапанаваў вырашэнне — каноплі, мясцовыя каноплі з гарода бабы Адэлі. І як я адразу не скеміла! Па-першае, растуць дзе заўгодна — значыць, іхні дым нячысцікам знаёмы. Па-другое, знайсці іх няцяжка, гэта ж нашае роднае зелле! Каноплі гонкія, як сосны, раслі ля ганка і пад вокнамі ў нашай сваячкі бабы Адэлі, каторая жыла непадалёк ад райцэнтра ў спусцелай вёсцы, амаль хутары. Лічылася, нібыта яны добра адганяюць мух, каб не ляцелі ў сенцы. Ну, я зрэзала адно каліва, наведаўшыся

